*Сонца – на лета !*




З любоўю да ўлоння 1997 №5-6 (7-8)


# Белавежская Пушча


Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета * Двухмесячнік


**Стары Улас**
*1865-1939*

**Зімою**

*Снегу ў калена*
*І белы шлях.*
*Там дзядзька сена*
*Вязе ў санях.*

*А другі—дровы*
*Прэ на ўбой.*
*Гоняць каровы*
*На вадапой.*

*Ніхто зімою*
*Не зол нічуць.*
*Дзеці капою*
*Са школкі йдуць...*



Аўтограф
Нацыянальны парк
"Прыпяцкі"




*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс", падпісны індэкс 63267*

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*



*Для кантактаў: 220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38, 16 Тэл. (0172) 236-50-76*

*The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk*

*Contact: Ivanovskaya St. 38-16 220088 Minsk Belarus*


## З Богам па марозцу!

Слова рэдактара



*Фота: Аявон Кісялёў*

**В**ось і зіма, і каляды, і шчадроўкі, і навагоднія бліскі. Але найперш, перадусім на свеце – белы снег, які на час выхаду нашай газеты збольшага асталяваўся, ашэрхнуў, месцамі, дзе глыбейшы, зрабіўся трывалы, зімны.

Самы час беларусам казаць, як казалі адвеку нашы дзяды: *З Богам па марозцу!* Гэта значыць з радасцю, з бадзёрым імпэтам, на здароўе сабе і сямейным, на добры лад з божай ласкі.

Белае значыць чыстае. Бела–чыстае шанавалася скрозь, было ўцехай і захапленнем, скарбам і запаветам у кожнай сям'і, у кожным сэрцы. Беламу, чыстаму радуемся і сёння, пракладваючы ў наваколлі санны след, беручы ў далоні мамін ручнік, засцілаючы стол ільняным абрусам...

Зіма з яе малюнкамі незвычайнай панарамнасці – гэта чароўныя імгненні Бацькаўшчыны, сымбалі роднай Беларусі. Мы любім зіму, бо нарадзіліся ў сваіх "беларускіх шыротах", якія маем за найлепшыя. Менавіта ў нашых палях, дзе за рэчкаю бор, на сіверным сцюдзёным ветры пачынала "кроў кіпець" у патомнага беларуса. Мы ўвабралі гэтую любоў, гэтую сімфонію адчуванняў з першых гадоў жыцця, і таму вяртанне зімы і вяртанне ў зіму неабходнае нам як вяртанне дамоў, да радні, да маці, да школьных настаўнікаў і сяброў.

Зразумела, зіма ёсць і ўвасабленнем нашых ілюзій. Свет за ноч прыгажэе, казачна ідэалізуецца, гвалтоўна парадкуецца ў гарманічнае цэлае.

Гаспадар аглядае двор і не верыць сваім вачам, што ўсё так слаўна парабілася без яго. Да вясны можна думаць, як зладзіць новы плот, якую паставіць браму, якім чынам ды як лепш абазначыць сваю гаспадарку.

Каляды, Хрыстова Ражство, Новы год – чарговы адлік часу для Беларусі. Кажуць, *сонца на лета!* А за ім і кола гісторыі, заснежанае ды ў ледзяных сасульках, памаленьку верне наперад. Адляціць усё благое, сыйдуць прэч злыя чорныя сілы, брама новай, сапраўднай Беларусі адбудуецца, паўстане велічнаю і годнай.



*Валерый Дранчук*



### Увагі рэдакцыі

**Г**эта апошні наш сёлетні нумар. Мы рабілі яго даўжэй за астатнія. Удзячны чытач, спадзяёмся, заўважыць нашы намаганні. Мы пастараліся не толькі захаваць, але паглыбіць канцэпцыю газеты-альманаха, узбагаціць рэжысуру і змест у абраным кірунку прыродалюбнай Беларушчыны. Выпуск зладжаны ў ранейшым аб'ёме, аднак рэдакцыя дазволіла сабе паісці на здвоены варыянт, што прадыктавана прычынамі выключна матэрыяльнага кшталту. На працягу года кошт газеты не мяняўся, а цэны на паслугі раслі няўхільна.

Цяжка сказаць, як складзецца наступны год. Але мы гатовыя вытрымаць выпрабаванні, каб захаваць поўны аб'ём і рэжым незалежнага выдання.

**Я**к заўсёды зычым сябрам газеты ахвоты й запалу ў прапагандзе нашага выдання, таму зважаем: прачытаў – перадай другому, падпісаўся – пераканай іншага. Да спаткання ў лютым.

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

*На газету "Белавежская пушча" Вы можаце падпісацца з любога дня. Скарыстайцеся падпісным каталогам і нашым індэксам — 63267*

# АНТАЛОГІЯ

POETIC NOTEBOOK

# Свет спавядаецца перад снегам



**Алесь Разанаў**

*Снег*

Такое маўчанне ў снезе,
такая далеч,
такая бель –
што замірае душа: не ўмее яна яшчэ
быць такой.

Шастае шорсткая асака.
Сінеюць самотныя лозы.
У вёсцы запальваюцца агні.

У снега позірк маіх надзей,
у снега маіх летуценняў голас.

Снег, ты з бясконцасці?
ты з дасканаласці? ты са скону?
Усё, што буяла, цвіло, красавала,
усё, што стала мінулым, усё, што
стала ўспамінам, усё, што вярнуцца
назад не можа, —
вярнулася ў белы снег.

У наваколлі яшчэ адно наваколле,
у адвячорку яшчэ адзін адвячорак,
у долі яшчэ адна доля:
снег.

Свет спавядаецца перад снегам.
Кранаю далонню снег.

**Кагава Кагэкі**
Японія, позняе сярэднявечча

*Зімовы месяц*

Быццам з месячнай высі
падаюць на зямлю
яскаркі неба –
снегам кладзецца ноч
падарожнаму на рукавы...

*Снегапад у канцы года*

Белы бязважкі пух
з абшараў прадвечча падае ціха –
вось і пражыты
яшчэ адзін год
кароткага веку

***

Спазнаць смак самоты
прыйшоў час і мне гэтым ранкам –
любуюся беллю
зіхотка святлістага першага снегу

**Яўген Хвалей**

*Першы снег*

Быццам з майскага саду.
выйшла мама,
стаіць каля брамы
ў святле снегападу...

**Якуб Колас**

*Песні Зімы*

Люблю я зімы з маразамі,
Завеі белыя ў палях,
і снегу скрып пад палазамі,
І ціш зімовую ў лясах.

Люблю я ветру спеў гаротны
Ў сялянскіх комінах пустых,
на полі белыя палотны –
Абрусы хмарак снегавых,

Што засцілаюць лугавіны
І далі ціхія палёў.
Мне любы елкі і хваіны
Пад белай посцілкай снягоў.

У гэтых з'явішчах свабодных,
У тых малюнках халадоў
Так многа песень, сэрцу родных,
Адбіткаў мілых мне гадоў.

**Аляксандр Твардоўскі**
Расія

***

Я ўдзячны за ранне такое
За міг першароднай красы:
Не зрушаць ні сну, ні спакою,
Марознай цішы галасы,

Калі над аціхлай сцяжынкай
Гурток прыбялелых ялін
Адной парушынкі – сняжынкі,
Баіцца абтрэсці з галін.

За ціхае, лёгкае шчасце
Не знаю чаму ці каму
Я ўдзячны,а можа, хоць часткай
Мой "дзякуй" -- і лёсу свайму.

**Дзмітро Паўлычка**
Украіна

***

*Зімовы дзень*

Так радасна, што снег пайшоў!
Дух недасяжнасці вітае –
Сялянская цішэе кроў,
Нібы азіміна, густая.

Аслеп ад снегу чарнатроп,
Ды мне пагодна ў добрым лёсе:
Той снег – нібы да неба сноп
Схіліў за небакрай калоссе.

**Ларыса Геніюш**

***

Едзем ноччу, а снег, як дым,
проста пер'ямі з крылаў хмар.
Не тулі кажухом сваім,
я люблю, калі вецер у твар.
Лейцы коням вальней пусці,
не спыняй іх задорны бег.
Дай адчуць мне яшчэ ў жыцці
і свабоду, і ўзлёт, і снег.

**Томас Макграт**
ЗША

***

Калі я выношу на сцюжу сваё дзіця,
Я ўсё больш пачуваюся
дуплаватым дубам –
Так хачу я схаваць яго ў сабе,
затуліць,
Агарнуць цяплом майго сэрца.

**Максім Танк**

*Пасля снегападу*

Ноччу, ціха падкраўшыся,
Выпаў снег.
Раніцой прачнуліся дрэвы
Ўсе ў казачнай белі
І не пазнаюць самі сябе.
— Ты хто? —
Пытае бяроза ў сасны.
— Ты хто? —
Пытае асіна ў алешыны.
— Ты хто?..

І так цэлы дзень
Чую шэпт іх і шорах
У нашых прысадах.

**Леанід Дранько-Майсюк**

*Шчаслівы міг*

І клёны зімнія з карой зялёнай
Спрыяюць нам,
І цеплаваты снег
На той кары,
І ў далечы прымглёнай
Дзіцячы смех,
Што коціцца з гары.

Усё спрыяе нам –
І дзень стамлёны,
І вечара
Такі бязважкі цень,
І светлыя сарочыя праклёны –
Усё, усё...
Дык будзем жыць прасцей.

**Вальтэр Хельмут Фрыц**
Германія

*Снег мяце*

Снег і снег. Цэлы дзень.
Калі ён занясе
і касцёр на двары, і парканы,
ты ўбачыш, як за далёкі пагорак
гады твае адлятаюць.

Па стромкай дарозе
ўслед неспакою
знікае фурманкі
запознены след.
Над вымерзлым дном ручая
вароны крылом разразаюць
халодны абшар.

За спінай тваёй
вецер дзверы шчыльней зачыняе.
Куды ў гэткі час падасіся?

**Анатоль Грачанікаў**

***

Зімовы дзень звініць, як звон,
Завейнай сцюжай загайданы.
Скаваў палеткі і паляны
Марозна летаргічны сон.

Ад светлай музыкі снягоў,
Якой навокал так замнога,
Расце, расце мая любоў
Да свету нашага зямнога.

Патрэбна многа пражыць,
Патрэбна многа перабачыць,
Каб свет суровы палюбіць
І ўжо любоў не парайначыць.

Каб каля родных берагоў,
Зачараваны снежным дзівам,
Адчуць пад музыку снягоў
Сябе і вольным, і шчаслівым

**Улаў Х. Хауге**
Нарвегія

*Снежны вечар*

Выслабаніся ад цемры ў душы
і зрабіся багаты,
як вечар пасля снегападу.

Павявае багаццем з палёў
пустэльных,
лес асыпае хваінкі,
а сцены жытла
атуляюць ад сцюжы
агонь і жыццё.

Спіць зямля. Яна ведае добра
пра сваю дзіваносную веліч.
Заінелыя бровы нябёсаў
звісаюць пад цяжарам зор.

**Максім Багдановіч**

***

Ноч. Газніца гарыць, чырванее,
І гарбата, астыўшы, стаіць.
За сцяной запявае завея,
Сумна бомамі ў полі звініць.
З краю ў край яе гул аддаецца,
І чагось усё думаю я,
Што з няволі зімовай там рвецца
Крэпка скутая снегам зямля;
Грудзі моцныя цяжка ўздымае,
Ветрам вее, як дыхаць пачне,
Снег халодны ў палёх калыхае
І вось-вось свае путы страхне.

**Валерый Дранчук**

*Зімовае балеро*

Крані, зіма, крані
Мой цёплы, млявы нерв!
Вітаю твой манеўр
На студзеньскім агні.

Снягам тваім – прастор.
Харомы тут і там.
Адкрыты зноў вачам
Зіхоткі непаўтор.

Сумётаў белы брэх
Халодна ліжа слых.
Бярозак лёгкі ўздрыг,
Нібыта даўні грэх.

Запознены матор
Галёкае з прысад.
О чуйны бацькаў сад
Пад кронай стылых зор!

Зіма... Кужэльны дзень.
Вярста пад палазом.
Радзімы белы сон,
Яе блакітны цень.

Крані, зіма, крані
Мой цёплы млявы нерв!
Сып срэбра за каўнер
З лядовае сяўні.

Круці і варажы,
Я твой ігрок, зіма.
І чараў не дарма
У сон мой палажы.

Крані, зіма, крані!

SUMMARY

*In poetic notebook of the issue there are presented poems on winter by Byelorussian poets and also the foreign authors from Russia, Ucraine, Japan,USA, Germany, Norway.*

# ПАТРЫЁТЫКА

PATRIOTICA

> *Душа без роднай мовы – гэта кветка без каранёў, гэта разбітая скрыпка, пусты дом...*
>
> Вацлаў Ластоўскі

## Родная мова

*Знакам глыбокай сыноўняй любові да Бацькаўшчыны пазначаны гэты невялікі твор, яшчэ нядаўна адрэзаны ад свету сцяной небыцця. З хіжых таямніц, закутых лёдам мінулага, вернута і імя яго аўтара – Вацлава Ластоўскага (1883-1938), выдатнага гісторыка, публіцыста, мастака. Ён горача любіў свой народ, сваю Радзіму, але эпоха жорсткіх рэпрэсій і крывавага тэрору адплаціла такім, як Вацлаў Ластоўскі, холадам ссылак, сценамі вязніц, брудам хлусні і шальмавання. Асуджаны за "падрыўную шпіёнскую дзейнасць" беларускі патрыёт быў расстраляны ў 38-м годзе далёка ад Беларусі.*

*Тэкст "Родная мова" ( як не назваць яго вершам у прозе) – яскравае сведчанне таленту і высокай адметнай культуры аўтара, мужнасці і няскоранай сілы сыноўняга ўдзячнага Слова.*

Кожны народ гаворыць аб дабрэ і зле сваёй мовай,і гэта яго права, бо мова гэта плод геаграфічных і гістарычных варункаў народа, яго звычаяў і абычаяў.

І болей: мова кожнага асобнага народа – гэта сума пераживанняў, сума душ яго жывых і даўно адышоўшых у вечнасць пакаленняў.

Родная мова – гэта мільёны жывых клетачак мозгу, унаследаваных чалавекам ад папярэдзіўшых яго пакаленняў, мільёны перажыванняў красы, дабра і зла, згукаў і форм, несчыслёнае багацце душы, каторае адкрываецца толькі пад дотыкам тых самых згукаў, каторыя нарадзілі іх калісь у душах далёкіх пакаленняў.

Родная мова – гэта музыка душы, каторай Навышні Стварыцель адарыў чалавека, гэта натуральны фундамент, на каторым чалавек павінен будаваць дом сваёй сілы духоўнай, свайго розуму, пачуцці дабра і зла, справядлівасці і крыўды, красы і брыдзі.

І гора таму, хто паднімае руку проці законаў, напісанных у кнізе Жывога рукою Стварыцеля. Падобен ён да таго неразумнага чалавека, каторы будуе дом свой на пяску: спадзе дождж, і пацякуць воды і зрыюць яго будоўлю.

Будуйце дом сваёй мудрасці, палацы душы сваёй на скале, каторай ёсць родная мова.

Душа без роднай мовы – гэта кветка без каранёў, разбітая скрыпка, пусты дом, напоўнены трупамі.

Душа жывога не павінна быць гробам пабяляным, каторы панадзен зверху, а ўсярэдзіне повен гнілі, але павінна быць домам радасці, у каторым грае музыка напеваў калысных вашых матак і бабак і жыве сіла дзядоў і прашчураў.

Родная мова чаруе душу, і душа рвецца да яе, бо яна калыска душы, гордасць і імя народа.

Сыны Народа павінны любіць і шанаваць яе, бо адна яна жы-вая крыніца нашага розуму, пачуццяў і семя душы нашай, яна чароўны лек і аружжа проці смерці. Толькі яе чароўная музыка мае сілу будзіць душы памершых нашых дзядоў і ад-крыць перад намі бесканечнасць перажыванняў тых, каторыя радзілі нас і адышлі ў вечнасць. Іх душы жывуць у мільёнах нашых мазгавых клетак, у фібрах душы і ажываюць толькі пад гудзьбу згукаў роднае мовы.

Родная мова наша для нас – гэта музыка ўсіх пачуццяў, якія перажываў народ наш: яго болесцей і радасцей, голас яго сэрца і святло яго розуму.

Але як жа адкрываецца перад намі сезамская скарбніца, калі ключ да яе, наша мова, або папсаван, або згублен намі? Як жа мы дабудзем укрытыя ў душы нашай скарбы, каторыя сабіралі і акуплялі цаной жыцця і жыццёвай практыкі нашы бацькі? Як дабудзем тыя несчыслёныя багацці мыслі, паэзіі і перажыванняў бацькоў нашых, калі мы забыліся або сказалі слова, што выклікае іх ?

І як мы выкажам аздобнасць душы нашай і скуль возьмем аружжа і сілу ў змаганні за жыццё народа, калі чароўная скрыпка, мова наша, папсавана?

Мала Сынам Народа прызнаваць права на жыццё нацыянальнай душы – мовы. Гэтага не адмовяць нам і чужынцы.

Ад Вас, Сыны Народа, вымагаецца болей: Вы павінны быць лепшымі! Вы павінны будзіць душу сваю і шукаць ключа да несчыслёных скарбаў, бо вы правыя наследнікі бацькоў вашых, а не байструкі і падкідышы.

Вы павінны вучыцца роднай мовы, старацца разумець усе адценні чароўнай яе музыкі, павінны ачышчаць яе ад злога зелля, каторае пасеяў на ніве нашай благі чалавек, калі работнікі, патомленыя днеўнай працай, спалі ўночы.

Кожны беларус павінен, болей чым іншыя народы, старацца ачышчаць родную мову ад чужых слоў і зваротаў, бо найміты цемры шукаюць душы нашай, каб забіць яе, і затручаюць атрутай крыніцы, скуль п'е душа наша.

Сапраўды, хто перасыпае родную мову сваю чужымі словамі – не мае права казаць, што ён любіць яе.

А хто не знае роднай мовы, не годзен называцца Сынам Народа.

**1914**

### SUMMARY

***Vatslav Lastovsky, the author of little known essay "Native language", being published, was repressed by Stalin's regime as Byelorussian nationalist.***

## НАШЫЯ СЛОВЫ!




*Уладзімір Басалыга. Серыя "Ініцыялы"*

# ТУТ

"...трэба падпісаць новае пагадненне з прыродай, якое б давала людзям магчымасць жыць з ёю ў поўнай гармоніі і згодзе."

## Удзячны лёсу, ён плаціў сваю долю ўзаемнасці

### Услед чалавеку, пушчанцу, прыродалюбу

У адзін з восеньскіх дзён у рэдакцыю газеты прыйшла запозненая вестка, што не стала руплівага навукоўца, таленавітага інтэрпрэтатара – нястомнага пашыральніка ведаў пра Белавежскую пушчу, навуковага супрацоўніка Нацыянальнага парка Сцяпана Віктаравіча Шостака. Перасцярогай і болем, якую я адчуў у апошнюю нашу сустрэчу з ім сёлетнім летам, былі ягоныя словы: *"Белавежская пушча не заслужыла, каб сёння пісаць пра яе дрэнна..."* Таму і размова атрымалася з паўзамі.

Сцяпан Віктаравіч разумеў неабходнасць крытычнага слова ў газеце і той меры галоснасці, якая б не давала ідэалізаваць прадмет усенароднай пашаны, паказвала і трывожныя тэндэнцыі. Пушча ёсць абшарам вялікай дзяржаўнай гаспадаркі, якая хоць і называецца Нацыянальны парк, аднак тут вядуцца інтэнсіўныя нарыхтоўкі драўніны, гучаць паляўнічыя стрэлы і толькі на асобных парцэлах запаведана цішыня...

*"Што казаць, мне сорамна часам..."* – ціха прызнаўся Сцяпан Віктаравіч. – *Сорамна весці экскурсію, калі вакол пні, драўніна, сляды тэхнікі. А пні, як вядома, "растуць" вельмі доўга."*

Праз паўзу, частуючыся тытунёвай зацяжкай, працягваў: *"Але я не магу пра гэта пісаць. Я схільны больш апя-ваць Пушчу, пісаць пра тое, што гу-чыць для мяне як паэма, як гімн.* – Сцяпан Віктаравіч гаварыў, пазіраючы ў акно кабінета, за якім зусім побач красаваў пушчанскі лес. – *Вось звычайная елачка. Але тут яна не звычайная. Таму што тут не звычайнае гэта паветра, сонца. Тут шмат прасторы і асабліва водару, тут усё запаведана."*

Была суботняя раніца, і ў будынку, дзе месціцца навуковы аддзел Нацыянальнага парка, панавала нязвыклая цішыня. Сцяпан Віктаравіч прыйшоў спрадкаваць паперы, да якіх даўно "не даходзілі рукі", ды заадно сустрэцца са мной, сёе-тое перадаць для газеты.

*"Што датычыць палявання...* — зноў глыбокая зацяжка і паўза. – *Я давяраю вам сваё пачуццё занепакоенасці і магу з адказнасцю заявіць, што рэкамендацыі вучоных у запаведніку ігнаруюцца. Іх ніхто практычна не ўлічвае. Той жа загонны метад. Замежнік са стрэльбай едзе сюды, каб страляць у лепшыя экземпляры, — якая ж гэта селекцыя?! Яму патрэбны прыгожыя рогі, ён аплаціў іх валютай. Таму і бяру на мушку аленя-самца. Тым часам суад-носіны самцоў і самак у Пушчы досыць крытычныя. Ды і ўзрост самцоў-трафеяў ужо такі, што з паляваннямі трэба даўно канчаць."*

І праз кароткую паўзу, заціскаючы ў попельніцы рэшткі цыгарэты, дадаў: *"Навука навукай, а жывы долар робіць сваю справу, асабліва на фоне нашай галечы..."*

Увогуле, у сваіх артыкулах і замалёўках Сцяпан Віктаравіч не кранаўся праблематычна-жорсткіх бакоў гаспадарчай дзейнасці на тэрыторыі запаведнай Пушчы. Негатыўная канкрэтыка вымагала іншага жанру, іншых абставін. Ды і натуры вучонага-папулярызатара больш імпанавала рамантычнае захапленне красой і веліччу Пушчы, лірыка-філасофскае асэнсаванне навуковага матэрыялу. Зрэшты і перасслед за крытыку тут, як, бадай, і паўсюль ніхто не адмяняў... Шмат пісаў Сцяпан Віктаравіч пра лясных жыхароў, асабліва капытных, якіх сам адмыслова вывучаў на працягу доўгіх гадоў.

Ён называў Пушчу самым велічным

## Увайдзі ў Белавежскую Пушчу як рыба ў ваду, як птушка ў блакітнае неба

### З дзённікавых запісаў Сцяпана Віктаравіча Шостака

Белавежская пушча... Самы старажытны помнік светабудовы. Гэта пасля ўжо з'явіліся і Сафійскі сабор ў Ноўгарадзе, і Маскоўскі Крэмль, і Кіеўска-Пячэрская лаўра, і ўсе іншыя запаведнікі. Вось у чым веліч і вага Белавежская пушчы!

І сёння жыхары Беларусі павінны не толькі пачувацца ў гонары, але глыбока разумець вялікую адказнасць, якую нясём перад чалавецтвам за цэласць і ахаванасць Белавежскай пушчы як помніка сусветнай спадчыны. Ахоўваць запаведнік, дзе ўсё істотнае, дзе дробязяў няма, абавязаны ўсе, — Пушча **твая і мая!**

У многіх краінах векапомныя гарады, старадаўнія забудовы, святыя храмы, замкі і крэпасці засталіся стаяць неразбуранымі альбо аднолеўныя. Там іх ахоўваюць і вывучаюць, шануюць і ўзносяць да нябёсаў сусветнае славы. Яны натхнілі думку пісьменнікаў і вучоных, далі чалавецтву мноства твораў мастацтва. І калі яшчэ нядаўна афіцыйна лічылася, што ў Беларусі такіх славутых помнікаў няма, сёння гэтага ўжо не скажаш – першаю ў шэраг сусветных каштоўнасцяў стала Белавежская пушча. Маюць патрапіць пад ахову міжнароднай супольнасці Мірскі замак і яшчэ колькі годных аб'ектаў айчыннай гісторыі ды культуры. І як жа тут Белавежскую пушчу не назваць мацеркай беларускіх святыняў!

Белавежская пушча стала адной з адметных часцін біясферы планеты, страта хоць якой-небудзь з іх можа значна паслабіць лёсаносныя колазвароты рэчыва і энергіі. Яна стала цэнтрам па вывучэнні эталонаў зямнога ландшафта. Якасна новы, планетарны ўзровень задач і праблем Белавежскай пушчы сведчыць за тое, што ідэі запаведнасці Пушчы будуць жывыя толькі пры ўмове поўнага яе захавання і калі іх зразумее народ.

Анонс

### Альберт Швейцар у... Белавежскай пушчы

Не, мы не абяцаем сенсацыі. Наколькі вядома, лёс вялікага гуманіста ніколі не перасякаўся з вялікім лесам. Аднак А. Швейцар пакінуў у спадчыну працу, якая сваім пафасам "багавейлівасці перад жыццём" робіць высновы аўтара вельмі надзённымі. Гэтым і азначана повязь А.Швейцара з сучаснай прыктыкай прыродаахоўнасці, перш-наперш на прыкладзе запаведнікаў — своеадметных "багавейлівых" тэрыторый. Разам з эсэ "Багавейлівасць перад жыццём" газета надрукуе ў наступным нумары гутарку з прафесарам Аляксандрам Нікольскім, запісаную ў Кіеве падчас Міжнароднай школы-семінара "Трыбуна-6": "Любіць прыроду". Рэч у тым, што расейскі вучоны не раз бываў у Белавежскіх лясах і па просьбе рэдакцыі спрабуе звязаць этыку пашанотнасці да ўсяго жывога, якую ён сам выспавядае, з тым, што, на яго думку, ёсць заганным адступленнем ад яе.



*Сцяпан Віктаравіч, шануючы запаведзь "Не парушь", надзвычай далікатна абыходзіўся з інтымным светам прыроды. Фатаграфаваў тады, калі гэта не пярэчыла этыцы прыродалюба і прыродазнаўца — трымаючы пэўную дыстанцыю, не выклікаючы спалоху, памятаючы пра свой чалавечы абавязак.*

** вочы ў вочы: аляятка высакароднага еўрапейскага аленя.*

беларускім музеем, марыў пра час, калі Беларусь будзе адкрывацца свету Белавежскай пушчай, хараством ацалелай прыроды. У гэта вельмі хацелася б верыць і нам. Напраўду, Белавежская пушча не заслужыла, каб пра яе дрэнна пісалі, каб добрая слава яе змянілася на благую. Але **найперш Пушча не заслужыла,** каб у ёй гаспадарылі чужыя, без роду і племені, людзі, каб у ёй панавала невуцтва і гібела навука, не заслужыла бядотнага стану, які ўжо зазнала астатняя беларуская прырода: тыя ж лясы, рэкі, флора і фаўна, зямля і нетры. Тымчасам чарга падышла да апошняй мяжы : Пушча таксама занепадае, зведвае жорсткі наступ чалавечай дзейнасці знутры і звонку.

Я хачу зразумець Сцяпана Віктаравіча: удзячны лёсу, які 40 гадоў таму звязаў яго, выпускніка Кіеўскага універсітэта з Белавежскай пушчай, ён плаціў сваю долю ўзаемнасці, заўжды ганарыўся пушчанскай прапіскай.

Дзякуй, Сцяпан Віктаравіч, за апошняе інтэрв'ю, за Вашу прыродалюбнасць і веру ў светлы лёс беларускай святыні.

*Валерый Дранчук*



*Фота: Уладзімір Дацкевіч (Нацыянальны парк "Белавежская пушча", в. Камянюкі)*

Мы ў сябе на прыкладзе Белавежскай пушчы можам убачыць як першы няпісаны дагавор, што нітаваў людзей старажытнасці з іх месцам жыхарства, быў парушаны адным з бакоў – чалавекам – як толькі ён пачуў сябе акрэплым, каб не зважаць на ўмовы прыроды, а выконваць толькі тыя законы, што пісаліся ім самім. Такія стасункі ўжо не раз пераглядаліся і цяпер нарэшце трэба падпісаць новае пагадненне з прыродай, якое б давала людзям магчымасць жыць з ёю ў поўнай гармоніі і згодзе.

Само па сабе нішто не захоўваецца, а лес рук у абарону Белавежскай пушчы не заменіць і аднаго дрэва. Найперш патрэбна дзяржаўная (усенародная) ахова. А каб зберагчы і захаваць Пушчу на вякі, трэба ўсебакова і стала яе вывучаць.

Нямала сусветна вядомых твораў навукі, культуры, мастацтва нясуць на сабе пячатку Белавежскай пушчы! Таму трэба ахоўваць Пушчу не толькі як унікальны помнік прыроды, але і як вялікі помнік гісторыі, навукі, культуры. Аднак прырода застаецца перадусім, перш-наперш трэба захаваць, зберагчы яе.

Трыццаць пяць гадоў назіраю пралёт птушак над Белавежскай пушчай. Ляцяць яны і днём, і ўначы. Але заўсёды, калі пралятаюць над Пушчай, пераклічка іх ажыўляецца. Знаёмыя мясціны! Буйны запаведны лясны абшар ляжыць на адным з адвечных шляхоў пралёту птушак на поўдзень і захад. Ён служыць ім добрым надзейным арыенцірам, тым адметным маяком, па якім птахі звяраюць свой шлях. Мне падалося гэта сімвалічным – такім жа светлым маяком Пушча павінна служыць і кожнаму з нас... Свяці ўсім, мая Белавежская пушча!

Дзесяткі кніг пра Белавежскую пушчу і шматлікія гадзіны развагі над імі не дадуць больш уяўленняў, чым хоць бы адна сустрэча з самой Пушчай. Веліч, жывое дыханне Пушчы цяжка апісаць, лягчэй адчуць гэта душой, сэрцам... Пражывеш тут адзін дзень – і ўжо ніколі гэты дзень не забудзеш. Прырода родніць, збліжае вас.

Увайдзі ў Белавежскую пушчу, як рыба ў ваду, як птушка ў блакітнае неба!..

Памятай: кожная пясчынка твайго ўнёску ў захаванне Белавежскай пушчы ператвараецца ў жамчужыну.

**1996-1997**





*Фота: Уладзімір Дацкевіч*

# ГОД ЗУБРА

THE YEAR OF THE BISON

*Год Зубра, названы так нашай газетай з падставы астрапагічнага Года Быка, запавольвае сваю хаду. На пютаўскіх скрыжаваннях эстафету пяройме не менш паважны прадстаўнік астразорнай фаўны, а пакуль... З дапамогай часопіса "Наш край" (1925-1930, Мінск) мы ўзнаўляем, бадай, адну з самых трагічных старонак пушчанскага жыхара. Публікацыя прафесара А.Фядзюшына "Да лёсу белавежскага зубра" мела выразна азначаную падставу - "Некралог". Цяжка ўявіць, але bison bonasus праходзіць скрозь артыкул мінулым часам: быў, меў... і гэтак далей. Досыць яскравыя і словы ў якасці эпіграфа: У тым, што незваротнаю стала не знешняя форма, а своеадметнае спалучэнне жывых сіл і прытым спалучэнне не індывідуальнае, а відавое, ёсць чымсьці глыбока трагічным, і скрушна, што многія не ўсведамляюць гэтага трагізму..."*

## Вяртанне ў некралог





Раней зубр быў вельмі распаўсюджаны па ўсёй сярэдняй Еўропе*, на поўнач ад Альпаў праз Аўстрыю, Нямеччыну, Польшчу, Літву і далей на ўсход, заходзячы за Дняпро. У Вугоршчыне, Чэхіі, Сілезіі (Шлёнску), Аўстрыі і Галічыне зубр знік даўно. Ва ўсходняй Прусіі, Польшчы і Беларусі зубры захаваліся да пазнейшага часу. У Прусіі яшчэ з XIV стагоддзя пачалі ахоўваць зубра, забараняючы паляванне ды прыпасаючы для яго сена на зіму. Аднак у выніку эпізаотый (пошаснай хваробы жывёл), а таксама з прычыны дзейнасці браканьераў у 1755 годзе знікнуў след апошняга зубра ў прускіх лясах, захаваўшыся толькі ў Польшчы і Беларусі... Тут і каралі і магнаты пільна ахоўвалі зуброў. У Беларусі адзін час была назначана нават кара смерцю за забойства зубра. (Вядома, гэта аднасілася толькі да сялян, а не да магнатаў, якія мелі выключнае права на паляванне). І ўсё ж у XVIII стагоддзі амаль па ўсёй Польшчы зубры зніклі.

І толькі ў адной Белавежскай пушчы больш як сто гадоў таму зубры захаваліся і дажылі да нашых дзён. Апошні іхні статак на той час налічваў ад 815 да 500 галоў. Дзякуючы ахове, на 1879 год лік іх у Белавежы дасягнуў 2000 галоў, і гэтая колькасць, напэўна, была максімальнай, бо перыядычныя эпізаоты спынялі лікавы прырост, а празмернае расплоджванне але-няў у Пушчы, якія псавалі падлесак, было прычынай недохопу ежы, і зубры галадалі. І ўсё ж было ві-даць, што зубры выміраюць, аб чым сведчыць малая пладавітасць жывёл, усяго 8% на год. Шматлікія немачы паніжалі палавы тонус зуб-роў, выраджэнню статка спрыяла як распаўсюджаная сярод іх хва-роба на дыстаматоз, так і адсутнасць уплыву натуральнага адбору (з ласкі чалавека). Даўно была звернута ўвага на тое, што такія буйныя паасобнікі зуброў, якіх калісьці стралялі польскія каралі, як пра гэта сведчаць запісы вагі забітых жывёлін, апошні час зусім не трапляліся. Так ці інакш зубровы статак, гэты надзвычай каштоўны помнік прыроды, захаваўся ў Белавежы да Імперыялістычнай вайны 1914 года. У часе апошняй, калі Белавежская пушча была ахоплена фронтам, зубровы статак нішчыўся расійскім і нямецкім войскамі, нямала зуброў было забіта і бра-каньерамі з бліжэйшых сялян. Праўда, калі нямецкія часткі занялі тэрыторыю Белавежскае пушчы ў верасні 1915 года, быў выдадзены праект паляўнічых правіл для Белавежы, паводле якога зубр браўся пад ахову. Кіра-ванне і ахова Пушчы былі даручаны інспектару этапнага праўлення нямецкіх войскаў генерал-лейтэнанту фон-Зэцкендорфу, які выдаў загад аб ахове Пушчы. Загад пачынаўся словамі: *"...мы хочам,хоць гэта адбываецца ў краіне непрыяцеля, наяўную колькасць зуброў захаваць дзеля таго, каб прадоўжыць у патомках гэты від як выключны помнік прыроды."*



На жаль, пажаданне акупантаў не здзейснілася. Зубры Белавежы ў рэшце рэшт былі канчаткова зні-шчожаны, як і сама Пушча, і ў па-казанай рабоце (Bialowies in deutscher Verwaltung, 1918, Berlin) даюцца апісанні з ілюстрацыямі дзейнасці нямецкіх заалагічных музеяў, якія скваліна кінуліся ("каб не празяваць") на збор калекцый. Вайсковае кіраўніцтва апавясціла нават паасобных вучоных-спецыялістаў аб пачатку навукова-даследчай працы ў Белавежы. У вышэй азначаным апісанні чытаем: *"Калі-небудзь свет убачыць, як "барбары-немцы" у заваяванай краіне сярод страшных крывавых бітваў спаборнічалі ў навуцы і ака-залі вучонаму свету каштоўныя па-слугі."* На заклік вайсковага кіраў-ніцтва ў Пушчу пачалі з`язджацца вучоныя, пераважна прэпаратары музеяў з мэтай папоўніць калекцыі. У балотах, на дрыгве яны шу-калі цэлымі днямі па снезе і лёдзе ацалелыя рэшткі магутных быкоў, і з лістапада па люты было знойдзена і ўратавана 9 няпоўных шкі-летаў. Большасцю гэта былі аста-чы зуброў, што пагінулі ад бра-каньерскіх куляў. Знаходзіліся і свежыя касцякі ласёў. Што да аленяў, дзікіх коз, ланяў і вепрукоў, астачы іхніх скур і касцякоў траплялася ў вадзе досыць часта. Апроч таго, "знаходзіліся" паасобнікі і намаганнямі паляўнічай каманды.

Каб даведацца пра становішча спраў на месцы, у лістападзе 1915 года Пушчу наведаў з аднадзён-ным візітам прэзідэнт Дзяржаўнага таварыства аховы прыроды Прусіі, тайны дарадца Конвенц. Увогуле берлінскім музеем была вывезена з Белавежы багатая здабыча. Апрача шкілетаў і скур дзікіх коз, аленяў і вепрукоў у тым жа напрамку былі вывезены на чучалы і тры забітыя зубры. Усяго, паводле звестак, нямецкае вайсковае кіраўніцтва вывезла 26 паасобнікаў шкілетаў зуброў. Большасць іх загінула ад куль, і толькі некалькі з іх, як давялося высветліць, — ад хваробы альбо з голаду. 66 штук зуброў, якія цяпер жывуць у Нямеччыне, паспяхова размнажаюцца і дзякуючы добраму нагляду, навукова пастаўленым назіранням падаюць надзеі на аднаўленне віду.

Такім чынам лёс белавежскага зубра як дзікай жывёлы, якую хоць і ахоўвалі на працягу стагоддзяў, нечакана закончыўся на нашых вачах яго знішчэннем на роднай тэрыторыі (апошняга белавежскага зубра, як лічыцца, зваліў былы царскі ляснічы ў 1919 годзе, калі Пушча належала Польшчы – *рэдакцыя "БП").* Некалькі паасобнікаў, якія былі вывезены яшчэ да вайны з мэтай акліматызацыі ў Крым, Асканію-Нову, яшчэ раней у Гатчыну, — таксама або загінулі ў апошнія часы, або ў якасці гібрыдаў дажываюць свае апошнія дні на адзіноце.

Каўказскі зубр, які захаваўся да гэтага часу ў ліку 30 галоў, належыць да другога падвіду.

**1926**

**Публікацыя А.Фядзюшына ў паасобных месцах падаецца з нязначным пераказам фрагментаў арыгінальнага тэкста —* ***рэдакцыя "БП".***

**Замест пасляслоўя.** *"Здавалася б, у незваротнасць сыходзілі гіганты Пушчы... Але не! Заолагі любой цаной намагаліся вярнуць іх у роднае ўлонне. Апошніх зуброў знайшлі і выкупілі ў заапарках. Сёння зубр з-пад Белай вежы належыць да V катэгорыі Чырвонай кнігі Беларусі — "Узноўленыя віды"*. Так заканчваецца эсэ Аляксандра Чагадаева ***"Знішчожаныя і ўваскрэшаныя"***, якое мы надрукуем у бліжэйшых выпусках рубрыкі.

SUMMARY

**This publication revives one of tragic pages of history of full disappearance of "Belavezhian" bisons in places of its original inhabitation.**

 

# АЎТОГРАФ

NATIONAL PARK "PRIPYATSKY"

# Вечная кніга палескіх абшараў

Серыя "Аўтограф" ізноў вяртаецца на Тураўскае ўлонне – – гэты раз на зацярушаныя снегам абшары Прыпяцкай поймы, на роскід сялібаў за Вербнікам ды чорнаалешнікам, на куп'істыя балацявіны, дзе сям–там зыркне–праб'ецца з–пад белі "пацеркамі зары" пераспелы журавіннік... Мы зноў у Нацыянальным парку "Прыпяцкі".


***Валерый Хмялеўскі***
*нацыяль..ны парк "Прыпяцкі",*
***Уладзя Ляская,***
*"БП"*


На балоты мы глядзім як на ацалелы краявід далёкай мінуўшчыны. Яшчэ ў XIX стагоддзі Палессе было багатае на бязлесныя цяжкапраходныя абшары балотаў, якія жывілі навакольную прыроду жыццядайнай вільгаццю, шанавалі зямлю ад разбурэнняў, былі прыстанкам шматлікай расліннасці ды шматаблічнага жывёльнага свету.

Не трэба напружваць фантазію, каб вобразна ўявіць балоты як гіганцкую мабільную машыну ( а не застаялую прошчу), якая сваім рухам, жывымі сокамі сілкуе павет-ра, лясы, азёры і рэкі і тым самым пазначае колазварот рэчываў, раўнаважыць прыродныя з'явы. Гэтая "машына" мае сваю адвечную, з часоў ледавіковага досвітку, хаду, яе "шум" – цудоўная сімфонія зямной музыкі з мноствам гукаў і пераліваў, мовай звяроў і птушак.

Меліярацыя Палесся прыкметна пацясніла архетыпы-першавобразы багатых непраходных балотаў, мохавых, асакова-трысняговых, чарацінных ды багністых раслінных супольнасцяў. Прыпяцкі запаведнік сёння ёсць адным з захавальнікаў таго, што ацалела, засталося боскаю ласкай ды ўдзячнасцю лёсу. Гэтыя асобныя балотныя абшары займаюць за палавіну ўсяе запаведнай тэрыторыі — больш як 65 тысяч гектараў. Іх склад разнастайны ў сваім абліччы – ёсць і нізінавыя, і пераходныя,і верхавыя тыпы.

Самыя вялікія балотныя абшары месцяцца ў цэнтральнай і паўднёвай часцінах запаведніка. Тут яны ўтвараюць выцягнутую з захаду на ўсход адзіную балотную сукупнасць. Плошча асобных балотаў вымяраецца разлегласцямі ад гектара і нават менш да 22 тысяч гектараў, што ёсць адметнаю рысай Палесся. У гэтай сістэме ўжыліся верхавыя і пераходныя тыпы. Нізінавыя балоты астояліся каля поймаў рэк Прыпяці і Свінаводы; размешчаныя ў паўночнай часціне запаведніка, яны выглядаюць вузкімі пасамі ўздоўж рэчышчаў.

Кожны тып чытаецца як асобны том вечнай кнігі балотных абшараў. Н і з і н а в ы я балоты больш цякучыя. Тут хапае вады. Вельмі багаты і разнастайны раслінны покрыў, прычым відавочная перавага траўных супольнасцяў над ім-шанымі. Узровень грунтовай вады зазнае значныя ваганні, да чаго ў рэшце рэшт прызвычаіліся і воль-ха чорная, і бяроза пушыстая, якія перадусім тут пануюць. Сярод кустоў сустрэнеш розныя віды вербаў, чорную парэчку, каліну звычайную, крушыну ломкую. А пад нагамі, глядзіш, асака – падоўжаная, берагавая, пузырыстая, а дзенебудзь побач шабельнік, маннік, капытнік ды інш. А вось моху амаль не відаць – тым і адметнае гэта балота.

А цяпер кінем позірк на в е р х а в о е балота. Калі ўзняцца высока над гэтым запаведным месцам ранняй расліннасці далёкай мінуўшчыны, убачым невялікія азёры ледавіковага паходжання. Вады тут значна менш, чым у нізінавых багнах. Калі параўноўваць далей, прасочым пэўную кансерватыўнасць верхавога балота – вада тут застойная, амплітуда яе грунтовых ваганняў нязначная, расліннасць не стварае відавой вясёлкавасці. Затое пераважаюць віды сфагнавых імхоў, іх супольнасці раскашуюць на вялікіх дзялянках. Апроч іх тут кусцяцца багун, журавіны, верас, дурніцы, падбел. Сям'я траў прадстаўлена падвеем, вадзянікай і расянкай. З дрэў "прапісалася" толькі сасна. Што яшчэ характэрна для верхавых балотаў Палесся – гэта выспы з мінеральнай глебай, якія прыкметна ўзвышаюцца над абшарамі балот. Пакрытыя дрэўнай расліннасцю, яны ствараюць непаўторны элемент мясцовага краявіду і вартыя таленавітай рукі мастака – апявальніка роднай прыроды. Пасярод верхавых балотаў Прыпяцкага запаведніка ёсць дзве невялікія рэліктавыя азярыны — Мяжэчанскае і Пупоскае (адпаведна 1,4 і 2,5 гектара), якія пакінуў нам ледавік. Глыбіня іх сягае 15-ці метраў. Гэта так званыя ў народзе "мёртвыя" азёры: апроч некаторых беспазваночных ды дзікіх качак тут не ўбачыш ані жывёл, ані раслін.

Перагорнем колькі старонак трэцяга тому "вечнай кнігі" Палесся.

П е р а х о д н ы я балоты займаюць прамежкавае месца між верха-вых і нізінавых. Тут ёсць багата вады, аднак у адрозненне ад нізі-навых балотаў, цякучасць далёка не тая. Пад нагой, дзе больш туп-ка, вы адчуеце мяккую мшаную по-сцілку, натрапіце на асаку, вахту трохлістую, шабельнік балотны, а прагнае вока, спасцігаючы навакольную далеч, лёгка прачытае сілуэты сасны і бярозы, заўважыць кусты вярбінаў, крушыны ломкай і зусім побач – лісце багуну, верасу, журавінаў...

Увогуле, балотны разназёл запаведніка вельмі разнастайны, малюнкавы. Гэта тлумачыцца маштабамі экалагічных умоў, а таксама варункамі фларыстычнай "форма-творчасці" прыроды ў паледавіковы час. Колькасць відаў раслін, якія ткуць тут свае першародныя кілімы, паводле падлікаў М. Рубана, сягае 199. Шмат якія з іх маюць вялікую навуковую цікавасць, найперш таму, што флора Палесся зведвае антрапагенныя змены ў выніку сумнавядомых гідрамеліяратыўных работ у гэтым рэгіёне. Працэс дагэтуль не спынены, таму апошнім прыстанкам для балотнай расліннасці застаецца тэрыторыя Нацыянальнага парка. А фіксаванне тут рэдкіх відаў, у тым ліку тых, якія сялібуюць блізка натуральнай мяжы іх распаўсюджання, ёсць справай надзённай і важнай.

Сёння грамадскасць Беларусі мае надзею, што апошнія балоты Прыпяцкага Палесся – адметныя ў сваіх відарысах і вельмі карысныя для чалавека – *будуць захаваныя ў натуральным выглядзе.* Раўнавага і ўстойлівасць біясферы, пра якую ўсё больш ды больш рупіцца свет, патрэбная дзеля чалавечага існавання. Парушаныя шалі пачнуць вяртацца ў стан балансу, калі ўсе ўрады свету скіруюць на ўратаванне планеты энергію канкрэтных дзеянняў, тады, калі чалавек усвядоміць сваю ролю на Зямлі і адказ-насць перад нашчадкамі.

***Нацыянальны парк "Прыпяцкі", паводле свайго статусу, ёсць адным з захавальнікаў таго, што засталося нам боскаю ласкай ды ўдзячнасцю лёсу***



**затока ў летні дзень*
*Фота: Мікалай Шарай*





**час квецені (багун, падвей)*
*Фота: Анатоль Дамашкевіч*
*(Нацыянальны парк "Прыпяцкі")*


SUMMARY

***The article describes biological variety of swamps in the National Park "Pripyatsky" in the South of Belarus.***




 

# Каляндар

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| А | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |
| С | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 |
| Ч | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 |
| П | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 30 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 |
| С | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 |
| Н | **4 11 18 25** | **1 8 15 22** | **1 8 15 22 29** | **5 12 19 26** | **3 10 17 24 31** | **7 14 21 28** |

## Дзень Зямлі — гэта ваш Дзень на тыдні:

з **19** красавіка (субота) да **25** красавіка вы можаце скарыстаць выдатную магчымасць выявіць і пацвердзіць сваё стаўленне да прыроды, менавіта – дапамагчы ёй: пасадзіць дрэва, павесіць шпакоўню, прыбраць ваколіцы, пачысціць бераг рэчкі, арганізаваць канцэрт, выстаўку, прэс-канферэнцыю, мітынг... Так, так, і мітынг. Бо слова ў абарону прыроды – гэта таксама справа. Дык за справу! **Пасадзім дрэва жыцця!**

## 5 чэрвеня — сусветны Дзень аховы навакольнага асяроддзя

А што такое навакольнае асяроддзе? Ёсць шмат вытлумачванняў. У самым шырокім паняцці гэта ўсё, што ў сукупнасці і непасрэдна ўплывае на чалавека і ягоную гаспадарку. Прыроднае асяроддзе – толькі адна з яго частак. Маючы гэта на ўвазе, сучаснік-паэт меў падставы са скрухай сказаць, што навакольнай прыроды становіцца ўсё менш ды менш, а навакольнага асяроддзя – больш ды больш. Як адзначыць гэты летні дзень (дарэчы, апошні дзень працоўнага тыдня), ніхто рэцэптаў не складаў. Кожны ўважае па-свойму. Можа, выйсці ў *наваколле* ды паглядзець, як адзначае яго прырода? Калі пашанцуе, убачыце россып дзьмухаўцовых шароў на поплаве. Нешта прыемнае ўспомніце з таго, што калі-небудзь звязвала вас з прыродай, зразумееце, што роднiць сёння.

**Пакінем запалкі дома**

**Шмат хто мяркуе, што на месцах выгарання сухой травы вырастае лепшая зяляніна. Гэта не так, а вынік спусташальны. Збядняецца раслінны покрыў, глеба губляе шмат гумусу.Датла выгараюць гнёзды птушак, матылёў, мошак. Гіне жывое. Дым атручвае наваколле. Чорныя плямы выгарын траўміруюць душы людзей.**

**А С Ц Е Р А Ж О М С Я !**

**Задумаемся: ці варта ставіць "падножку" прыродзе, калі ёй і так цяжка. Успомнім: лясныя пажары пачыналіся з красавіцкіх загаранняў.**

**Пакінем запалкі дома.**

Зелёнае агенцтва "неруш-прэс"

***У якім палацы жыла царская сям`я, калі галава прыязджаў паляваць у Пушчу? Пра гэта ды іншае -- асобны расповяд ў бліжэйшых нумарах***

*Уезная брама палаца. 30-я гады. Фота: Ян Карпінскі (з фотазбору Белавежскага парку нарадовага). Рэпрадукцыя: Анджэй Кечыньскі.*



## Тэксты, якія вы прачытаеце ў бліжэйшых выпусках газеты "Белавежская пушча"

**Т**ам, дзе я раблю крыўду якому-кольвек жыццю, я мушу вельмі добра ўразумець, наколькі гэта мне неабходна. Я не павінен рабіць нічога, апроч неабходнага, — нават самага малога і неістотнага.

*Альберт Швейцар.*
**"Пашанотнасць перад жыццём".**

**У**се жывыя істоты павінны быць "аб`ектам" маральнага клопату.

*Стый Келерт*
**"Пра экалагічную этыку".**

**В**азьміце любую птушку, скажам, жураўля. Тысячы вучоных перамацалі ў руках усе яго костачкі і прэпаравалі ўсе яго мускулы, і палічылі ўсе яго пёры. Але сапраўднае жыццё жураўля застаецца, бадай, зусім невядомае.

*Міхаіл Пршвін.*
**"З дзённікаў".**

**І**дэя аховы прыроды пачынаецца там, дзе ахоўнік робіць гэта не для матэрыяльнай карысці, не дзеля звязаннай з цудам прыроды чужой яму гістарычнай або іншай каштоўнасці, а дзеля самой прыроды, дзеля таго, каб знаходзіць у ёй ідэАльныя каштоўнасці.

*Ян Пайлікоўскі.*
**"Культура і прырода"**



# 1998



# 1998

*Дуброва Прыпяцкага Палесся Нацыянальны парк "Прыпяцкі"*

*Фота: Мікалай Шарай*

***Восень. Паспяваюць журавіны. Пашанцуе — і вы скарыстаецеся сваёй доляй вітамінных дароў прыроды. Вазьміце да ўвагі і наш рацэпт.***

| Ліпень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | **5** | **12** | **19** | **26** | |

| Жнівень | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | **2** | **9** | **16** | **23** | **30** | |

| Верасень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | **6** | **13** | **20** | **27** | |

## Каляндар для тых, хто неразлучны з газетай "Белавежская пушча"

## Журавіны з мёдам

Прыкаляднае слова пра журавіны (гл. старонку 10) варта смачна "запіць" журавінавым напоем.

*Спатрэбіцца:* 1 кілаграм журавінаў, 300 грамаў мёду, 1 лімон, 2 літры гатаванай вады.

Расцёртыя з цукрам ягады журавінаў, здробнены на цёрцы разам з лупінай лімон (спачатку яго абдайце гарачай вадой) заліце разагрэтым мёдам і пастаўце ў халоднае месца. Праз дзень (журавіны могуць стаяць хоць некалькі дзён) распусціце масу халоднай гатаванай вадой, працадзіце, усыпце на смак цукру і падавайце гатовы напой на стол.

**Калі з вамі за сталом будуць дзеці, раскажыце ім, дзе растуць журавіны, і пры гэтым звярніце іхнюю ўвагу на багацце прыродных кладовак нашых лясоў і балотаў, на іх зберажэнне і ашчаднае абыходжанне.**

# Белавежская пушча

| Кастрычнік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | **4** | **11** | **18** | **25** | |

| Лістапад | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | **1** | **8** | **15** | **22** | **29** | |

| Снежань | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | **6** | **13** | **20** | **27** | |

***Газета "Белавежсккая пушча" даступная кожнаму. Падпіска ў любым кутку Беларусі. Індэкс у каталогу 63267.***



"БП"ладзіць выпускі серыі "Аўтограф" (газета ў газеце), дзе вы можаце цудоўна заявіць пра сябе, папулярна і падрабязна прадставіць тую ці іншую мясціну, помнік прыроды, аб`ект культурнай спадчыны, экалагічны праект, кірунак прыродаахоўнай дзейнасці і г.д. Ваш "Аўтограф" прачытаюць не толькі ў Беларусі, але за яе межамі. Ёсць цікавыя прапановы.Чакаем новых.

## Нашы рубрыкі:

Тут
Лес -- лёс
Дзень Зямлі
Галерэя
Альбом
Твой востраў
Летапіс
Нашыя словы!
Кветкі раю
Засцярога
Аўтограф
Лад

# Каляндар



Фота: Аляксей Мацюш

# АЎТОГРАФ

*Святочны капядны стол наўрад ці абыдзецца без дароў прыроды, сабраных людзьмі за доўгі год у розных кладоўках і мясцінах Беларусі. Балоты, лясы, азёры ды рэкі, хоць і збяднелі за апошнія дзесяцігоддзі, яшчэ, аднак, частуюць чалавека апошнім – грыбамі, ягадамі, лекавымі травамі, арэхамі. Кожнае свята, кожнае застолле ёсць добрай падставай парадавацца за тое, што дае нам прырода і заадно падзячыць свой край за багацце, паспавядацца ў любві да яго, паабяцаць сваю апеку і заступніцтва ад хіжых ды прагных.*



## Адвечны скарб жураўліных балотаў

### Прыкаляднае слова пра журавіны

**Вольга Шарай,**
*нацыянальны парк "Прыпяцкі",*
**Уладзя Ляская,**
*"БП"*

** вавёрка, бадай, не ўяўляе свайго стала без спелых, сакаўных журавінаў. А пакуль яна смачна сталуецца шышкай. Фота:* **Мікалай Амялюсік** *(з архіва "Неруш-прэс")*
** верхавое балота. Фота:* **Мікалай Шарай**



**Журавін не сеюць,**
**журавіны самі**
**Сеюцца ў балоце жураўліным...**

Смак журавінаў, хто іх калі-небудзь збіраў, напэўна, дасць волю прыгадаць лясны ці балотны абшар, куп'істы мох, аплецены тонкімі галінкамі ў дробным скурастым лісці, цудоўныя сваёй красой вераснёўскія краявіды. Ягаду можна збіраць да самых маразоў, у снежнай прыцярушанасці яна запомніцца як нешта вельмі паэтычнае – ярка-чырвоныя кропелькі гарaць, ірдзяцца на белым пакрывальцы. Нават перазімаваўшы, журавіны вартыя ўвагі, іх збіраюць разам з лісцем на чай.

**Запрагаў каня буланага я ў сані,**
**Везлі мяне сані ў журавіны...**

Цяпер наўрад ці знойдзецца аматараў збіраць зімовую ці, па зіме, падснежную балотную ягаду. Наадварот, апошнім часам выяўляецца тэндэнцыя празмерна ранняга, заўчаснага збору, калі ягада несаспела. Гэтая з'ява трывожыць не толькі эколагаў, але і саміх жыхароў, якія не хочуць жыць адным днём ці за кошт унукаў. Апярэджваць тэрмін паспявання ягады прымушае людзей звычайная чалавечая (хоць, па чалавечых нормах, і нялюдская) прага нажывы. Жнівень – найбольш характэрны для такога збору месяц, калі журавіны толькі ледзь-ледзь пачынаюць чырванець, аднак набегі на журавіннікі ўжо надзвычай інтэнсіўныя. Што асабліва прыкра – вытоптваюцца па дарозе "няварты ўвагі" дробныя плады, а сабраная зялёная ягада будзе стаяць, чакаючы свайго даспявання ў хатніх умовах.

**Каб прырода ўзнаўлялася паводле сваіх пракаветных законаў, каб кладоўкі яе дароў не бяднелі і не выбіраліся ўшчэнт, належыць, напрыклад,на журавінавых балотах пакідаць не менш як 40-50 працэнтаў ураджайнай колькасці ягад.**
**Не будзьма хцівымі – гэта і шчодрая дабрыня, і разумная мера.**

**На куп'і замшэлым ягады зіхцелі**
**І на лёдзе зоркамі гарэлі...**

Вучоныя даўно вызначылі, што няспелыя журавіны шмат бяднейшыя на вітамін С, у іх менш цукру. Біялагічная каштоўнасць, а значыць і лекавыя якасці ягады не дабіраюцца. У рэшце рэшт сабраныя раней тэрміну плады гніюць, губляюць вільгаць, псуюцца ад хваробаў. Лічы, палавіна (50 працэнтаў) каштоўнага багацця загублена марна.

На Беларусі кіслую ягаду пачыналі збіраць не раней верасня. Да гэтага часу па журавіны ў лес не хадзілі. Такое было правіла. Гісторыя захавала выпадкі, калі тэрміны збору журавінаў кантралявала сама грамада, сяляне.

Нарыхтаваныя ў пару, ягады смачныя, сакавітыя і добра ляжаць, захоўваюць усе свае карысныя якасці амаль круглы год.

**Назбіраў, насыпаў іх**
**паўнюткі кошык,**
**Падарыў паўнютккі ёй, харошай...**

Пра журавіны як каштоўны харчовы прадукт добра вядома. Гэтай ягадзе заўсёды аддавалі перавагу. Гатавалі з яе варэнне, напоі, кісялі, церлі з цукрам. Асабліва ласавалі запасамі дзяцей: ягада вельмі спрыяла агульнаму ўмацаванню арганізма, дапамагала ад цынгі, малакроўя.

Журавінавыя ягады бадзёраць, лечаць, бадай, кожны арганізм (апроч выпадкаў, калі ёсць супрацьпаказанні, напрыклад, страў-нікавыя праблемы і інш.). Іх прымяняюць пры павышаным ціску, піеланефрыце, хранічным танзіліце, рэўматызме, гастрыце (з паніжанай кіслотнасцю), пры адсутнасці апетыту. Калі пачаўся запаленчы працэс або кінула ў жар, скарыстайцеся ягадай з балотнай аптэкі — супрацьмікробнае, мачагоннае, танізуючае дзеянне паскорыць палёгку. Сок журавінаў дапаможа загаіць рану, апёкі. Напоі (морсы, адвары, экстракты) здымуць стомленасць, прагоняць смагу.

Паэт правільна зрабіў, калі для сваёй "харошай" назбіраў кошык журавінаў — такі падарунак не мае цаны!

**Дзе яна цяпер?**
**Магчыма, за лясамі**
**Па вясне збірае журавіны?..**

Журавіны патрэбны не толькі чалавеку. Імі харчуюцца і жыхары лесу: птушкі( глушэц, цецярук, рабчык), сасуны (мышы, куніцы, вавёркі). У прыродзе ўсё разумна павязана. Таму не менш як 40-50 працэнтаў ураджайнай колькасці ягад трэба пакідаць балоту для самаўзнаўлення і таксама нашым "меншым" суседзям, такім жа дзецям прыроды як і мы.

Што залежыць ад чалавека, дык гэта – не шкодзіць, ахоўваць прыродныя кладоўкі ад самога сябе, гаспадарыць разумна. Напрыклад, палічана, што эканамічна больш выгадна на балотах вырошчваць вітамінную ягаду, чым іх асушаць, не кажучы пра тое, што любое чалавечае ўмяшанне ў прыродныя лабараторыі дабра не абяцае. Словам, балоты, якімі яшчэ можа ганарыцца Прыпяцкае Палессе, не толькі ахоўваюць Беларусь і Еўропу, але частуюць смачнай дыетычнай ягадай, якая заслужыла ўдзячнага прыкаляднага слова.

SUMMARY

*A Cristmas speach on cranberry - this is a subject of environmental articles by Olga Sharay who is a research worker of National park "Pripyatsky".*

# Адгарні назад...

## Па старонках папярэдніх выпускаў: рубрыкі, публікацыі, сціслы змест

<u>1995, №1.</u> *Р у б р ы к і:Тут, Bos urus, Асоба, Патрыётыка, Альбом, Мартыралог,Твой востраў, Глыбінная экалогія.*

*Запаведнік–парк.* Гістарычная панарама Пушчы ад 983 года – першага ўпамінання ў рукапісах (Іпацеўскі летапіс) – да нашых дзён.

*Слава беларускай фауны ў вянку белавежскай флоры.*Выразнымі штрыхамі малюецца партрэт зубра, даецца характарыстыка яго паводзінаў, звычак.

*Пушчанскія ельнікі.* Умовы й асаблівасці росту.

*" К".* Спадчына Яна Ежы Карпінскага – дырэктара запаведніка, прафесара, апантанага фатографіка. Вернісаж 9 фотаздымкаў Пушчы.

*О пушчах, о ловах, о бортном дереве, об озерах, и лесах.* Дзесяты раздзел Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588.

*"Цёплае, часам вельмі гарачае пачуццё да нашае роднае стараны"* Старонкі з "Геграфіі" Аркадзя Смоліча.

*Гісторыя з вадзяным млынам.* Фатаграфіі з сямейнага альбома (Маладзечанскі раён).

*Дзікі бэз.* Настальгічныя ўвагі прылеснага жыхара. (Стоўбцы – Гародзей – Нясвіж)

*Гаючая ласка дрэва.* Пра энергетычныя магчымасці дрэў, тэхніку зносін "чалавек – дрэва".

<u>1996, № 2.</u> *Р у б р ы к і: Тут, Па–над межамі, Жорсткія стасункі, Лад, Лес - лёс, Засцярога, Белая вежа, Дзень Зямлі, Глыбінная экалогія.*

*Сляды на прасеках.* Падлічка звяроў – адметная з'ява ў зімовай Пушчы.

*На лыжах па грыбы.* Расповяд пушчанскага міколага пра калядныя грыбныя мясціны.

*Знак прысутнасці, знак гармоніі.* Карцінай "Елаўстонскі нацыянальны парк. Бізоны" амерыканская мастачка беларускага паходжання Тамара Стагановіч засведчыла сваё стаўленне да прыроды як да Боскае з`явы.

*Мы прыйшлі да такога стану , што кампрамісаў не можа быць.* Беларуская "глыбінка"зведвае маштабны наступ на жывую прыроду. Інтэрв' ю з раённым інспектарам па экалогіі (Івацэвіцкі раён).

*Уолдэн, альбо Жыццё ў лесе.* "Зімовыя" мясціны з кнігі Генры Дэйвіда Тора ў перакладзе з ангельскай мовы.

*"Перадаю рукапісную кнігу пра лес".* Публіцыстычныя нататкі Мушга (Швейцарыя) з нагоды стварэння ўнікальнай кнігі на пергамінавых старонках.

*Спакон веку беларусы ратавалі лес. Ці ўратуем яговыя рэшткі?* Рэпартаж, прэвентыўная рэклама "Пакінем запалкі дома".

*Дзень Зямлі.* Гэты дзень у апошняй дэкадзе красавіка па ўсім свеце штогод адзначаецца як дзень агульнай дзейнай патужнасці ў абарону навакольнага асяроддзя .

<u>1996, № 3.</u> *Р у б р ы к і: Тут, Этнас, Патрыётыка, Лес - лёс, Нерушы, Зялёны фронт, Дзень зямлі, Твой востраў, Кветкі раю, Ніша, Мартыралог, Глыбінная экалогія.*

*Пажар у Пушчы.* Ён здарыўся 185 гадоў таму і доўжыўся чатыры месяцы запар.

"*Я не пішу гісторыю, я яе збіраю*". На пошук яцвяжскіх слядоў археолог адправіўся ў Пушчу.

"*Прыснёны сад" Яна Баршчэўскага.*Такой паўстае перад аўтарам Паўночная Беларусь.

*Волат з добрай багатай душой.* Паніжэнне вады ў беларускіх грунтах пагражае лясам, нясе небяспеку іх вынішчэння.

*Бярэзінскаму біясфернаму запаведніку прысвоены Еўрапейскі Дыплом.* Прэстыжная ўзнагарода падвышае ступень экалагічнай дысцыпліны, на якую пастаўлена ўся краіна .

*Беларусь – дом са шклянымі сценамі?* Зварот 18 грамадскіх арганізацый да Прэзідэнта краіны А. Лукашэнкі. Каментарый.

*Сад Габрыэля ў ландшафце Еўропы і Беларусі.* Як жыхар Германіі пасадзіў на ўспамін беларусам гектар лесу.

*Калі чалавек заблудзіўся ў жыцці, ён заблудзіцца і ў лесе.* Уладанні ляснога бога, нагадваюць "рэанімацыйныя кабінеты", дзе карысна час ад часу бываць кожнаму.

*Кветкі раю.* Канюшына лугавая. Чаромха. Вятроўнік вязалісты.

*З жыцця лугавога шуляка.* Сям' ю драпежніка аўтар назіраў з вясны да восені.

*Ад якога скарбу мы адракаемся?*Знікненне "малых радзімаў" – вёсак, хутароў, сядзібаў, на думку аўтара, ёсць вынікам антыгуманнай ідэалогіі.

*Спроба медытацыі на дзвюх мовах.* Паэма "Новая зямля"Якуба Коласа па–беларуску і па–польску.

<u>1997, №1(4).</u> *Р у б р ы к і : Тут, Год зубра, Па–над межамі, Лес – лёс, Асоба, Да запатрабавання, Апакаліпсіс, Летапіс, Твой востраў, Белая вежа, Галерэя.*

*Экалагічны капітал.* Якім грашовым коштам вымяраюцца багацці Белавежскай пушчы.

*"Будзем жыць, бо яны жывуць...* Белавежскі зубр як гарант геапалітычных інтарэсаў суверэннай Беларусі.

*Пушча ў нас адна.* Інтэрв'ю дырэктара Белавежскага Парка Нарадовага Чэслава Аколава (Польшча).

*Спадчына вялікай інертнасці.* Лесанарыхтоўкі маюць устойлівую тэндэнцыю абядняць, драбніць і нішчыць прыродную разнастайнасць лясных абшараў. Вытворчасць не абыходзіць і старыя (нясеяныя), асабліва каштоўныя лясы, якія дзівам захаваліся.

*Свет калекцый Станіслава Жыўны.* Музею прыроды ў Гродне споўнілася 70 гадоў. Яго аснову склалі экзатычныя зборы земляка.

***Дзень добры!***

***Піша Вам Васіль Котаў.***

***Працую дырэктарам Касцюковіцкай станцыі юных турыстаў, з'яўляюся пастаянным чытачом Вашай газеты. Газета мне падабаецца. Было б вельмі добра, каб "БП" выходзіла часцей. Я добра разумею, як цяжка ў наш час даецца выданне газеты. Але справа гэтая вельмі добрая, і я веру ў будучыню газеты.***

***Цяжка паверыць, але чалавек да таго звыкся з усім, што акружае яго, — дрэвамі, раслінамі, вадой, што ўжо не задумваецца над тым, што ўсё гэта можа знікнуць. Больш за ўсё мы любім свае кватэры, мэблю, грыбы ў кошыку, кветкі ў жмені, арэхі ў заплечніку, а не лес, ваду, горы.***

***Нам, турыстам, да болі знаёмая такая "любоў" да прыроды. Балюча глядзець на людскую абыякавасць да боскіх каштоўнасцяў. Таму наша станцыя робіць усё,каб выхаваць маладога чалавека экалагічна адукаванага. Ва ўсіх гуртках праводзіцца асветна-выхаваўчая работа, захоўваецца традыцыя спаборнасці. У гэтым навучальным годзе праходзіць агляд-конкурс сярод школ і дзіцячых дашкольных устаноў па экалагічнай адукацыі і выхаванню. Супрацоўнічаем з замежнымі экалагічнымі ўстановамі, бяром удзел у міжнароднай акцыі "Ачыстка навакольнага асяроддзя".Са штаб-кватэры Акцыі атрымліваем газеты, фотавідэаматэрыялы, даклады. У далейшай працы я спадзяюся і на Вашу дапамогу, на рэкламу ў газеце зялёных акцый, на адрасы і досвед грамадскіх экалагічных арганізацый.***

***З павагай Васіль Котаў, Касцюковічы.***



*Зімовы золак на здымку нашага чытача-экатурыста з Мінска Дзмітрыя Захарына*

### SUMMARY

*It's presented a brief content of materials published in previous issues of newspaper.*

*Структуры дзяржаўнага рэгулявання, што апякуюцца пытаннямі аховы навакольнага асяроддзя ў Беларусі.* Інфармацыя для кантактаў і зваротнай сувязі, актуальны каментарый.

*Пейзажы без чалавека.* Фрагменты з новай кнігі Святланы Алексіевіч "Чарнобыльская малітва. Хроніка будучыні."

*Успомніце "леташні снег".* З гісторыі прыроды і клімату паводле тысячагадовага летапісу экстрэмальных умоў надвор`я.

*Вы – дрэва, вы – крона...* Адзін з варыянтаў "хатняга" энергасілкавання.

*Блакітная сімфонія.* Перад творам Вітольда Бялыніцкага–Бярулі "Зімовы сон" (часта называнага "Блакітная капліча").

<u>1997, №2(5).</u> *Р у б р ы к і: Тут, Лес – лёс, Апакаліпсіс, Засцярога, Аўтограф (газета ў газеце), Лад, Дзень зямлі, Кола, Белая вежа, Твой востраў.*

*Еўрапейскі безвізавы фэст, магчыма, адбудзецца ў Белавежскай пушчы.* Праект Веры Багальянц (Нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ ў Мінску).

*Спадчына вялікай інэртнасці* (заканчэнне). Калі знікаюць старыя лясы, разам з імі падае і заслона, без якой цяжка ўстаяць.

*Дзесяць урокаў Чарнобыля.* Мемарандум, які прынялі 120 арганізацый з 30 краін свету (красавік 1996).

*Нічога не можа быць лепшага за натуральны прадукт з божага саду.* Некалькі ўвагаў паводле кнігі Сары Шэнан "Харчаванне ў атамным веку".

*Нацыянальны парк "Прыпяцкі"*. Газета ў газеце.

*Дом з саламяных блокаў.* Практыка будаўніцтва з праекцыяй на Беларусь.

*Квслая не Зямля...* Устойлівасць развіцця на змену халоднай вайне. Факты, *лічбы.*

*"Чалавек заўжды мае шанец застацца сам–насам з прыродай...* "Водгукі чытачоў на першыя выпускі газеты.

*Пасадзі!* Пра ядловец як цудоўны сродак ачышчэння паветра.

*Вазьмі ў дуба, аддай вярбе.* Калі бракуе энергіі, яе можна папрасіць у дрэва–донара.

*Пакінем запалкі дома!* Прэвентыўная рэклама.

<u>1997, №3(6)</u> *Р у б р ы к і: Патрыётыка, Кліч Касандры, Кантрапункт, Кола, Ніша, Па–над межамі, Засцярога, Белая вежа, Нашыя словы!*

*Якуб Колас.* Казкі жыцця.

*Дбаць пра славу свайго краю, шырыць думкі беларускія.* Са спадчыны Яна Чачота (1796–1847) і Сяргея Палуяна (1890–1910).

*Падзенне Белавежскай пушчы.* Эксплуатацыя гістарычнага лесу пагражае поўнай яго дэградацыяй і паступовай заменай дрэўнымі плантацыямі. Перамены да лепшага ў Пушчы аўтар звязвае з палітычнымі зменамі ў краіне, якія яшчэ не насталі.

*Пушча – не заапарк...* Вальеры ў дачыненні да Пушчы выглядаюць як штосьці спрошчанае і сведчаць пра небагаты досвед арганізатараў турызму.

*Бог сведка...* Прэвентыўная рэклама.

*Серэнады над балотамі.* Біёлаг Ігар Бышнёў падае ў слове і фотаздымках партрэт аднаго з кулікоў – бакаса.

"*Ёсць мудрасць у тым, што кожны кулік сваё балота хваліць*" – гаворыць пісьменнік Янка Брыль і прызнаецца: "У сваім Крынічным жыву з 1978 года і ніяк не нацешуся".

*Бадзёрая песня квакшы і сем буслоў у небе.* Нататкі з Міжнароднага семінара па праблемах амфібіяў (Польшча).

*Чытачы газеты цікавяцца...* Хто цяпер гаспадар Белавежскай пушчы? Якая расліна "самая беларуская"? Што рабіць з "тэхналагічным" смеццем? На чые сродкі выпускаецца газета "Белавежская пушча"?

*Паэзія і проза грыбных урочышчаў.* Перасцярогі міколага Паўла Міхалевіча.

*Наватвор беларускамоўнага папугая.* У Заслаўі пад Мінскам папугай навучыўся прыдумляць новыя словы.

<u>1997, №4(7).</u> *Р у б р ы к і: Патрыётыка, Тут, Год зубра, Летапіс, Ліцэй, Кола, Край, Белая Вежа, Нашыя словы!*

*Вяртанне народу ягонай славутай рэліквіі.* Адноўлены ў копіі крыж Святой Еўфрасінні Полацкай змяншае горыч страты і падае беларусам надзею.

*Малітва за беларускі народ.* Рым, 1946.

*Гісторыя паўтараецца. Непаўторная сама Пушча.* Водгук на публікацыю У. Дацкевіча "Падзенне Белавежскай пушчы".

*Пытанне для недалёкай будучыні.* Рассяленне зуброў па асяродках Беларусі.

*Роўна сем стагоддзяў таму стаяла цёплая восень, і ў сярэдзіне лістапада цвілі ружы.* З гісторыі прыроды і клімату паводле тысячагадовага летапісу экстрэмальных умоў надвор'я. Тут жа: метэакаментарый з нагоды ўрагана–97.

*Праз сотні гадоў па Беларусі зноў пацякуць звілістыя рэчкі?* Інтэрв'ю кліматолага Уладзіміра Логінава.

*Навучальны тэст "Беларускі лес"*. Пытанні, адказы, каментарыі.

*Хочацца такіх слоў, каб у іх было як мага больш чыстага паветра, птушынага перазвону, водару лясоў і палёў.* Чытачы абмяркоўваюць змест газеты.

*Аслані Божа, гэта цуд ад хіжага сэрца, ад злога чалавечага вока.* Фотавандроўка ў "краіну нерушаў".

*З беларускіх выслоўяў.* "Каб з таго семечка ды насеннечка"

**Паважаныя чытачы!**

Рэдакцыя трымае колькі дзясяткаў кожнага выпуску газеты і гатовая пры нагодзе даслаць публікацыю, якая Вас зацікавіла (у выглядзе ксеракопіі альбо разам з асобнікам).
Мы з ахвотаю прымем таксама прапанову ўзяць удзел у абмеркаванні таго ці іншага артыкула газеты, закранутай тэмы, праблемы і інш. Пішыце, паведамляйце. *Запрашаем да "Кола"!*

# Любіце ўсё жывое на Зямлі, як сваё ў сабе самім

## Прынцыпы экалагічнага светапогляду

*Жыць, не абцяжарваючы сябе аніякімі прынцыпамі, кажуць, прасцей, чым жыць у згодзе з імі. Унікаць спакусаў, сумнявацца ў тым, што для большасці "відавочна", супрацiўляцца чарговаму кампрамісу, быць, нарэшце, трохі нязручным для грамады, а часам нават дакорам для тых, хто побач,— напраўду, няпроста.*

*Прынцыпы экалагічнага светапогляду, складзеныя ў сціслыя фармулёўкі правілаў паводзін, — не складаюць выключэння.*

*Аднак парадаксальна і тое, што жыць у поўнай згодзе з прынцыпамі, калі іх добра разумееш і пераканаyы ў праўдзівай іх рацыі, — і больш цікава, і больш высакародна. Жыць - назапашваць досвед. Хтосьці сказаў, што самы дзейны спосаб перадаваць нажыты досвед - значыць жыць з ім у згодзе. Зрэшты, спакон веку так і вялося на Беларусі. Правілы паводзінаў чалавека сярод роднай прыроды перадаваліся з пакаленняў, нормы прыродаашчаджальнасці і прыродалюбнасці былі ў крыві, шанаваліся.*

*"Прынцыпы экалагічнага светапогляду" пісаліся яшчэ тады, калі свет не ведаў слова "Чарнобыль", але ўжо тады, калі АЭС не для ўсіх заставаліся сымбалем мірнага атаму.*

*Пераказваючы "Прынцыпы" ў беларускай мове (па звестках БП, гэта першая поўная беларускамоўная іх публікацыя), мы спадзяёмся, што яны прыдадуцца спярша ў асяродках выхавання (не выключаючы дашкольнага). Магчымасць інтэрпрэтацыі, творчага падыходу ў асвойванні сфармуляваных нормаў, бадай, неабмежаваная.*

*Хочаце - назавіце гэтыя правілы запаведзямі. Напачатку паспрабуйце выпучыць самы блізкі вам прынцып або той, які падаўся найбольш важным ці, на ваш погляд, асабліва прадуктыўным - з перспектывай і вялікім патэнцыялам. Спадзяёмся, вы адразу заўважыце, што прынцыпы ўзбагацілі вашы веды; яны здольныя дапамагчы лепш сістэматызаваць погляды, адрозніваць "відавочнае" ад... "прынцыповага".*

*Можа, і напраўду, лягчэй жыць без прынцыпаў. Але павярнуць рэкі назад - справа таксама нялёгкая, хоць і пярэчыць не аднаму з "прынцыпаў". Сёння трэба спрабаваць павярнуць свядомасць у той бок, дзе ёсць надзея і разумны сэнс, дзе ёсць жыццё, а не смерць. В.Д.*

**Прыродныя багацці (рэсурсы), забруджванне і заняпад навакольнага асяродзя**

**Б**агацці абмежаваныя і не павінны ўходзяцца марна *(прынцып межаў);*

**М**ы павінны ўразумець, што спрацаваныя багацці (рэсурсы), забруджанне таксама ёсць рэсурсамі і некаторыя з іх да таго небяспечныя, што выраблядь іх не трэба зусім *(прынцып ненаяўных у прыродзе выдаткаў);*

**К**аб паменшыць забруджванне навакольля, а таксама выбіранне багаццяў і іх скарыстанне, аддавайце адходы на паўторную перапрацоўку і яшчэ раз скарыстоўвайцеся тымі ж рэсурсамі *(прынцып паўторнай перапрацоўкі і выкарыстання багаццяў);*

**П**ры паўторнай перапрацоўцы рэсурсаў таксама выдаткоўваецца энергія, што мае не лепшыя вынікі – забруджванне наваколля і яго заняпад *(прынцып недасканаласці паўторнай перапрацоўкі багаццяў);*

**К**аб скарыстаць выдаткаванне багаццяў і знізіць залежнасць ад іх, першнаперш цалкам скарыстайцеся ўсім, што найбольш даступна вам, так і тым, што найбольш неабходнае, а таксама як мага цурайцеся адходаў ці здавайце іх на паўторнае скарыстанне ў сваёй мясцовасці *(прынцып геаграфічнай абмежаванасці або лакальнасці);*

**К**аб паменшыць забруджванне асяродкаў, скараціць выбіранне багаццяў ды іхняе ўходванне, карыстайцеся імі, каб задаволіць перадусім жыццёва пільныя патрэбы і як мага з большай карысцю *(прынцып мяркоўнасці);*

**Р**абіце акцэнт на скарыстанне вечных і ўзнаўляльных багаццяў. Скарыстоўвайцеся апошнімі не хутчэй, чым яны паспеюць паўстаць, узнавіцца натуральным шляхам *(прынцып устойлівай выпрацоўкі);*

**С**тарайцеся браць багацці з разнастайных крыніцаў *(прынцып разнастайнасці);*

**Б**удзем памятаць: кожны з нас паяднаны з абшарамі паветра і вады на Зямлі *(прынцып планетарнай узаемасувязі).*

**Матэрыя і энергія**

**Н**емагчыма ствараць або знішчаць матэрыю, можна толькі зміняць яе форму. Тое, чаго мы збавіліся, ўсёроўна застаецца з намі, толькі ў інакшай форме *(закон захавання матэрыі);*

**А**рганізаваная і сканцэнтраваная матэрыя ёсць высакаякаснай. Яе можна здабываць, пераўтвараць у карысныя рэсурсы коштам прымальных выдаткаў. Неарганізаваная матэрыя ёсць нізкаякаснай з-за таго, што яе перапрацоўка каштуе вельмі шмат *(прынцып якасці матэрыі);*

**А**дходы матэрыі не трэба распускаць, рассейваць або змешваць, калі іх можна абрабіць паўторна *(прынцып мэтазгоднасці паўторнай перапрацоўкі багаццяў);*

**Н**емагчыма ствараць або знішчаць энергію, яе можна толькі перайначваць *(прынцып трансфармацыі).*

**Н**емагчыма ўзяць энергію з нічога, а каб займець энергію, трэба яе ж патраціць *(закон захавання энергіі, або першы закон тэрмадынамікі);*

**А**рганізаваная або сканцэнтраваная энергія ёсць высакаякаснай, прыдатнай для вытворчасці. Неарганізаваная або рассеяная энергія ёсць нізкаякаснай і для скарыстання непрыдатная *(прынцып якасці энергіі);*

**П**ры трансфармацыі энергіі з аднае формы ў іншую высакаякасная карысная энергія заўсёды робіцца нізкаякаснай, з якой немагчыма ўжо атрымаць высакаякасную энергію *(другі закон тэрмадынамікі, або закон выраджэння энергіі);*

**Ч**асцей за ўсё прыдаецца альбо сярэдняя альбо высакаякасная энергія, якую нельга перарабіць паўторна, каб атрымаць першапачатковую якасць. Таму карыстайцеся энергетычнымі багаццямі разумна *(прынцып выкарыстання энергіі і энергетычнага патоку);*

**Н**е бярыце высакаякасную энергію для вытворчасці. Не скарыстоўвайце пілу для наразання масла або электрычнасць – для абагрэву дома ці вады на пабытовыя мэты *(прынцып суадносін якасці энергіі з задачамі яе выкарыстання);*

**Экалогія**

**У**сё, што мы ствараем, можа павярнуцца непрадказальнымі наступствамі ў прыродзе *(першы закон экалогіі; прынцып удара ў адказ);*

**У**сё на свеце ўзаемапавязана, у тым ліку і мы з вамі *(другі закон экалогіі, або прынцып усеагульнай узаемасувязі);*

**Н**іводнае штучна створанае хімічнае рэчыва не павінна ўплываць на прыродныя біяхімічныя цыклы Зямлі – гэта можа стацца прычынай парушэння стабільнасці экасістэмаў *(трэці закон экалогіі, або прынцып хімічнага неўмяшання);*

**Э**касістэмы могуць вытрымаць значную нагрузку з-за няправільнай эксплуатацыі, але іхні запас трываласці (рэзерв стабільнасці) абмежаваны *(закон абмежаванняў у экалогіі);*

**К**ожны біяхімічны від або асобны арганізм могуць існаваць толькі ў пэўных асяродкавых варунках *(прынцып гранічнай трываласці);*

## КАНТРАПУНКТ

**Усім чытачам прапануем адказаць на пытанне:** *да якіх з пададзеных Прынцыпаў гэтыя фотаздымкі могуць прыдацца ў якасці ілюстрацый?*

*Фота: "Неруш-прэс"*







**Усім,
хто вучыць
і вучыцца, газета
"Белавежская пушча"
жадае шчаслівых
зімовых вакацый,
прыемных калядных
уражанняў
і прыгод.**

**Н**іводная папуляцыя не можа расці бясконца з-за абмежаванасці багацця экасістэмаў *(прынцып гранічнага росту папуляцый);*

**П**рырода куды больш складаная, чым мы думаем *(прынцып складанасці);*

**Эканоміка**

**К**ошт любога тавара будзе сапраўдны тады, калі яго суму будзе складаць і кошт вынікаў забруджвання, заняпаду навакольных асяродкаў, а таксама шкодных наступстваў для грамадства *( прынцып кошту экалагічнага ўрону);*

**Д**амагайцеся максімальнай эфектыўнасці вытворчасці тавараў з мінімальным выдаткаваннем багаццяў; рабіце як мага больш, выдаткоўваючы як мага менш *(прынцып павышэння эфектыўнасці і прадукцыйнасці);*

**Н**екаторыя формы эканамічнага росту ёсць ад пачатку шкоднымі, таму цурай-цеся такой вытворчасці *(прынцып эка-намічнага рака);*

**Н**е выдаткоўвайце багаццяў на вытворчасць шкоднай прадукцыі *(прынцып марнатраўнай вытворчасці);*

**Н**ават нязначныя памылкі маюць катастрафічныя вынікі для эканомікі і навакольнага асяроддзя *(прынцып расплаты);*

**Ч**ым большай колькасцю рэчаў мы валодаем, тым у большай меры яны валодаюць намі *(прынцып звышспажывання і тыраніі рэчаў);*

**Н**е аплочвайце (у выглядзе субсідый) і не вызваляйце ад падаткаў вытворчасць шкодных тавараў, марнае расцягванне багаццяў. Заахвочвайце толькі тых вытворцаў, якія імкнуцца паменшыць выдаткі рэсурсаў, забруджванне і заняпад асяродкаў *(прынцып эканамічнай і экалагічнай мудрасці);*

**Н**е можа быць здаровай эканомікі ў нездаровым навакольным асяроддзі *(прынцып узаемасувязі эканомікі з прыродай).*

**Палітыка**

**Р**ост насельніцтва планеты ў рэшце рэшт зробіць традыцыйную дэмакратыю і індывідуалізм немагчымымі *(прынцып эрозіі свабоды);*

**Н**амнога танней і больш эфектыўна прадказаць і запабегчы праблемы, чым пасля займацца іх ліквідацыяй і зваяваннем *(прынцып прадухілення);*

**Л**юбы крызіс – гэта магчымасць для зрухаў і пераменаў да лепшага *(прынцып другога боку медаля);*

**Д**умайце аб глабальным маштабе, дзейнічайце на месцы *(прынцып пераменаў);*

**Н**іколі не майце сябе за кансерватара, калі вы кансерватыўныя ў дачыненнях да Зямлі *(прынцып разумнага кансерватызму);*

**Светапогляд і этыка**

**М**ы – частка прыроды *(прынцып еднасці);*

**Ч**алавецтва – каштоўны біялагічны від, але ён не галоўны перад астатнімі відамі. Усе жывыя істоты, разумныя і неразумныя, валодаюць адвечнай каштоўнасцю *(прынцып скромнасці);*

**К**ожная жывая істота мае права на жыццё, або, сама меней, права змагацца за жыццё ўжо таму, што яна існуе. Гэта права заўжды справядлівае, нават калі чалавек з яго не мае ніякай карысці *(прынцып пашаны да прыроды);*

**Н**аша роля грунтуецца на спасціжэнні прыроды, а не на тым, каб яе заваёўваць *(прынцып супрацоўніцтва);*

**З**аўсёды праўдзіва тое, што спрыяе захаванню сістэмаў, якія ёсць грунтам усіх формаў жыцця, і наадварот. Зямля – апірышча ўсяго *(прынцып стабільнасці і экацэнтрызму);*

**Ч**алавек не павінен быць прычынаю заўчаснага знікнення біялагічных відаў або іх прыгнёту і дэградацыі *(прынцып захавання дзікіх відаў і біялагічнай разнастайнасці);*

**У** нас ёсць права абараняць сябе ад шкодных і небяспечных відаў, але толькі ў тым разе, калі кантакт з імі непазбежны. Абараняючыся, мы павінны старацца прычыніць ім як найменей шкоды *(прынцып самаабароны);*

**М**ы маем права забіваць іншыя арганізмы, каб забяспечыць сябе ядой, неабходнай для жыцця, але мы не маем права забіваць дзеля сваёй прыхамаці *(прынцып выжывання);*

**К**алі мы змяняем прыроду, каб задаволіць свае патрэбы, мы можам рабіць гэта з найменшым уронам для іншых жывых істотаў. Значна меншаю шкодай будзе знішчэнне адной асобіны, чым усяго віду біятычнай супольнасці *(прынцып найменшага зла);*

**Н**ельга абыходзіцца з людзьмі альбо іншымі істотамі як з элементамі вытворчасці, каштоўнасць якіх вымяраецца і вытлумачваецца толькі эканамічна *(прынцып невяршэнства эканомікі);*

**М**ы павінны захаваць Зямлю ў яе першародным выглядзе *(прынцып правоў наступных пакаленняў);*

**Л**юдзі павінны несці адказнасць за забруджванне навакольнага асяроддзя і яго дэградацыю *(прынцып адказнасці);*

**Н**і індывід, ні грамадства, ні нацыя не маюць права на некантраляванае размеркаванне абмежаваных багаццяў. Не давайце волю нястачам рабіць вас прагнымі *(прынцып мяркоўнай дастатковасці);*

**М**ы павінны абараняць першародныя экасістэмы ад прыгнёту чалавечай і гаспадарчай дзейнасці (антрапагеннага ціску), аднаўляць пацярпелыя ўжо экасістэмы і старацца вяртаць пашкоджаным іх праўдзівы, колішні стан *(прынцып абароны і ўзнаўлення экасістэмаў);*

**Н**е спыняйцеся на тым, што вы абараняеце і падтрымліваеце прыродны комплекс: вам належыць ісці паперадзе закона *(прынцып перавагі этыкі перад законам);*

**К**аб унікнуць празмернай смяротнасці людзей ды іншых відаў, неабходна кан-траляваць нараджальнасць *(прынцып перавагі кантролю за нараджальнасцю перад кантролем за смяротнасцю);*

**У**сё, што мы маем ці будзем мець, даецца ад Зямлі і Сонца. Зямля здолее пражыць і без нас, а мы без яе – не можам. Заняпалая Зямля азначае заняпалую эканоміку *(прынцып першаступеннай значнасці Зямлі);*

**Н**е рабіце нічога, што магло б пацягнуць за сабой разбурэнне фізічнага, хімічнага ці біялагічнага капіталу Зямлі, які падтрымлівае жыццё і глабальную эканамічную дзейнасць *(прынцып баланса);*

**Л**юбіце ўсё жывое на Зямлі, як сваё ў сабе самім *(прынцып абароны і любові да ўсяго жывога);*

**К**аб навучыцца любіць, разумець Зямлю і клапаціцца пра яе і пра сябе, паспрабуйце непасрэдна адчуць паветра, ваду, глебу, расліны, жывёлаў, бактэрыі, іншыя формы прыроды. Рабіць гэта праз сродкі масавай інфармацыі або кнігі недастаткова *(прынцып непасрэднага досведу);*

**Л**юбіце прыроду, якая непасрэдна вакол вас, і хадзіце па зямлі лёгка *(прынцып любові да бліжняга).*

***Паводле:*** *G. Tyler Miller,*
*yr. from Living*
*in the Environment*

П'ер Луіс

## З "Песень Біліціс"

### Дождж

*Спорны дождж акрапіў усё, вельмі ціха, пяшчотна. Яшчэ трошкі накрапвае. Я выйду пад дрэвы. Басаногая, каб не запэцкаць туфлі. Вясновы дождж далікатны. Галіны пад важкаю вільгаццю кветак водарам аглушаюць. Ільсніцца на сонцы пяшчотная скура кары. Як шкада! На зямлі незлічоная колькасць красак. Змілуйцеся над апалымі кветкамі. Не трэба іх падмятаць і змешваць з брудам, захавайце для пчолаў. Скарабеі і слізнякі перасякаюць дарогу між лужын; я не хачу ні ступаць на іх, ні спуджваць залатую яшчарку, што выцягнулася і міргае павекамі.*

### Лясная рэчка

*Я купаюся ў лясной рацэ і баюся наядаў, што жывуць у цёмнай вадзе. Клічу іх. А каб завабіць — уплятаю ў патыліцу касачы, чорныя, бы валасы мае, з жоўтымі ніцямі гваздзікоў. З доўгай плывучай травы я майструю зялёны пояс і, каб бачыць яго, сціскаю грудзі, злёгку схіліўшы галаў. І клічу я: "Наяды! Наяды! Пагуляйце са мною, будзьце ласкавыя!" Але наяды празрыстыя, і можа, сама не ведаючы, я лашчу іх, лашчу.*

Парыж, 1896

## КОНКУРС



*Гэты відок зімовага лесу мы атрымалі з Бярэзінскага запаведніка ад Ігара Бышнёва і адрасуем яго малодшым чытачам.
Здымак з таемным пытаннем-загадкай: чый схоў? Якое жыццё падае тут свой знак? Якія сцэны могуць ажывіць стылую маўклівую бель ляснога ўлоння?
Чакаем цікавых допісаў з фантазіямі і здагадкамі. У якасці прызоў абяцаем "цікавыя" сувеніры.*

SUMMARY

***Those principles of environmental outlook which should be objects for orientation of modern society are given in brief form easy to understand.***

## XXI стагоддзе

### Прызнанне факта, што багацці Зямлі не бязмежныя, патрабуе і новых паводзінаў

Прыканцы года варта ўспомніць пра адну юбілейную дату, з нагоды якой хоць і не збіраліся прэс-канферэнцыі, аднак сама падзея вартая ўшанавання.

У 1987 годзе быў апублікаваны даклад Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пад назвай *"Наша агульная будучыня"*, дзякуючы якому канцэпцыя ўстойлівага развіцця апынулася ў цэнтры ўвагі міжнароднага жыцця.

Магчымасці Зямлі зусім не бязмежныя. Прызнанне гэтага, здавалася б, відавочнага факта мае сабой адно з самых значных дасягненняў XX стагоддзя. І далося яно з вялікімі цяжкасцямі. Ад таго, ці будуць прынятыя захады паводле гэтай пасылкі, шмат залежыць, як будуць развівацца падзеі ў XXI стагоддзі.

Пакуль што ідзе пошук новых падыходаў вырашэння старых праблем. Адны з іх прадугледжваюць распрацоўку новых тэхналогій, другія – вяртанне да больш даўніх і простых мадэляў паводзін. *Уласная інфармацыя.*

## Стратэгія

### Інтэграваць агульнаеўрапейскія прыярытэты ў нацыянальную палітыку

Рада Еўропы, якая з пачатку 60-х гадоў праводзіць дзейнасць па ўратаванні прыроднага асяроддзя ў Еўропе, працягвае каардынаваць намаганні ў адным з галоўных накірункаў – захаванні біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці на кантыненце ў адпаведнасці з прынятай на гэты конт Агульнаеўрапейскай стратэгіяй.

*"У маштабах усёй планеты адбыліся змены ў прыёмах вядзення сельскай гаспадаркі, з'явіліся новыя праб-лемы ў карыстанні зямлёй ды іншымі прыроднымі багаццямі,* -- піша Бюлетэнь Стратэгіі (Жэнева. 1997). – *Гра-мадскасць, у самым шырокім сэнсе гэтага паняцця, усё больш адчувае і выказвае трывогу ў сувязі з рознымі праблемамі біялагічнага і ландшафтнага разнакшталту і патрабуе грун-тоўна распрацаваных прыярытэтаў, а таксама выніковых канкрэтных дзеянняў."*

Стратэгія цалкам грунтуецца на выкананні 10 "стратэгічных прынцыпаў", якія ёсць яе асновай. Гэтыя прынцыпы датычаць пераважна засцерагальнага падыходу, кампенсацыі і экалагічнай цэласнасці, выкарыстання самай лепшай тэхналогіі з тых, якія ёсць, і самай лепшай практыкі ў галіне навакольнага асяроддзя, правіла "хто забруджвае, той і плаціць", удзелу грамадскасці і доступу насельніцтва да інфармацыі.

Прадугледжваюцца таксама этапы Стратэгіі. Яна павінна быць зрэалізаваная ў рамках некалькіх пяцігадовых планаў дзеянняў, разлічаных на 20 гадоў. Першы план дзеянняў сягае перыяду 1996-2000 гадоў і прадугледжвае галоўную мэту –процідзейнічаць заняпаду самых важных біялагічных і ландшафтных сістэм, стымуляваць стварэнне нацыянальных экалагічных сетак, а праз 10 гадоў – Агульнаеўрапейскай экалагічнай сеткі. Гаворка ідзе і пра тое, каб інтэграваць агульнаеўрапейскія прыярытэты ў нацыянальную палітыку і ініцыятывы нацыянальных органаў улады – на карысць выканання Сусветнай канвенцыі аб біялагічнай разнастайнасці. *Крыніца: Бюлетэнь Стратэгіі (Жэнева,1997).*

## Лірычнае

### Відок на рэчцы Гальшанцы

Пад час адной з апошніх навуковых канферэнцый у Гальшанах выпаў снег. Трава, апалае лісце, галіны дрэў і дахі будынкаў аздобіліся свежаадбеленай абновай. Але была тут і адна прыемная неспадзяванка: снег маляўніча, выразна ўпаў на... ваду (што бачым на здымку), халодна люструючыся ў сцюдзёных хвалях рэчкі Гальшанкі. Надзвычай гарманічны відок ствараў вадзяны млын – выносны, з трывалага дрэва, надзіва захаваны, хоць і кінуты на захлынанне лёсу. Міжволі можна залюбавацца гэтым мястэчковым



сюжэтам ды з карысцю зазначыць: сыдзе-растане не толькі снег на даху помніка драўлянага дойлідства, але і сам помнік – спадчына сотняў беларускіх правінцый. Знікне ў смузе часу, калі не спрычыніцца воля чыя захаваць, рэстаўраваць, адрадзіць...

Вядомая справа: на змену такім "аб`ектам" паўставалі гіганты, магутныя рэактары, а млынкі на рэчках ды ветракі на ўзвышшах пачалі выміраць як маманты. Большасць, як заўсёды, думала: так трэба, так лепш...

І вось – рэдкае выключэнне: і ўцеха, і спадзяванне, і белы, чысты снег. Не хочацца, але згадваеш і пра Чарнобыль. *Уладзя Ляская.*

*Фота: Святаслаў Лойка (Гальшаны, Ашмянскі раён — Мінск).*

## Экаапека

### Зубр Вася знайшоў спонсара. Ім стаў жыхар Брэста Сяргей Якубоўскі

Мары часам збываюцца. Пра тое, што ў белавежскіх волатаў могуць з'явіцца добрыя сябры ў асобе спонсараў, эколагі запаведніка маглі толькі марыць. І вось першы прыклад. Бізнесовец Сяргей Якубоўскі выказаўся за канкрэтнае супрацоўніцтва, зрабіў унёсак на суму 12 мільёнаў рублёў – менавіта столькі каштуе гадавое ўтрыманне вальернага волата Васі ў Нацыянальным парку "Белавежская пушча".

Сяргей Якубоўскі і зубр Вася пазнаёміліся вясной падчас акцыі *"Марш паркаў-97"*. Зварот эколагаў да грамады з просьбай дапамагчы прыродзе хто чым можа не застаўся пустым гукам. "Грошы на Васю" – даволі нечаканы і канструктыўны працяг свята запаведнікаў, які ператварыўся ў адметны праект экаспансорынгу.

З прыходам зімы спадар Якубоўскі ўжо двойчы наведаўся у Пушчу, каб трохі зрынуць з сябе штодзённую мітрэнгу ды зірнуць на свайго аблюбенца, запэўніцца ўстойлівасцю ягонага існавання.

*"Ахвяраваць грошы на зубра,* — кажа Сяргей Александравіч, — *рэч патрэбная і непразаічная. Bison bonasus вядомы кожнаму беларусу як жывы помнік прыроды, як наша нацыянальная візітная картка. Таму апекавацца асілкам лічу за гонар". Уласная інфармацыя.*

**Увага рэдакцыі.** Калі сёння не ў кожнага з нас ёсць такія ж сродкі дапамагчы прыродзе, гэта яшчэ не значыць, што вы нічога не можаце. Збярыце, напрыклад, крошкі са свайго стала і аднясіце ў кармушку. Птушкі вам скажуць *"Дзякуй!"*

## Цытата

### Геапалітычныя рызыкі – як наступства таталітарнага рэжыму

"Сістэма акружана варожым светам, таму геасфера ёсць адначасна рэсурс і абшар барацьбы з гэтым светам.

Адсюль вынікае, што нарошчванне сілы для геапалітычнай экспансіі (да межаў усталявання сусветнага панавання) ёсць мэтаю пазітыўнай. Значыць, вялізнае войска, цэнтралізацыя кіравання (як найменей самаарганізацыі), падтрыманне стану перманен-тнай мабілізацыі, мілітарызацыя эка-номікі і "гулагізацыя" грамадзянскага жыцця ёсць аб`ектыўнай неабходнасцю. Карацей кажучы, вайна і падрыхтоўка да яе – умовы выжывання Сістэмы, і ўжо адным толькі гэтым максімізацыя рызыкі цалкам легітымізуецца.

Аднак геапалітычны імператыў у роўнай меры звернуты ўсярэдзіну краіны і грамадства. Прынцыпы размяшчэння вытворчасці, што выцякаюць з дактрыны – крэпасці планавай цэнтралізаванай гаспадаркі, спарадзілі гіганцкія монакультурныя манаполіі, штучную раскіданасць вытворчасці, тысячакіламетровыя сустрэчныя перавозкі...

Другая крыніца павышанай рызыкі – стаўленне рэжыму да ландшафта, прыродных экасістэмаў як да "пустога" месца, "будаўнічай пляцоўкі". І ў адначассі як да бясконцай ёмістасці для амартызацыі, збірання і паглынання рызык". *Крыніца: Кніга сацыёлага Алега Яніцкага "Экалагічны рух у Расіі", Масква,1997*

## Анонс

### Галандскія "зялёныя" звяртаюцца ў суд

Як вядома, буйныя жывёлагадоўчыя фермы прадукуюць шмат аміяку, які выклікае акісленне навакольных асяродкаў. Паводле *"Закона аб спакоі грамадзянаў"*, у Галандыі, каб штонебудзь вырабляць, трэба мець ліцэнзію з умоваю недапушчэння шкоды і ўрону прыродзе. Такая ліцэнзія была выдадзена і на будаўніцтва "комплекса" непадалёку горада Хенгела. Аднак прыродаахоўная арганізацыя "Сябры Зямлі" выказала пратэст і звярнулася ў суд... *Пра падрабязнасці справы галандскіх прыродазаступнікаў чытайце ў наступным нумары.*

## Клімат

### Вятры над раўнінамі, альбо ці аслоняць нас Альпы?

Процістаянне прыроды і чалавека зрэдзьчас суправаджаецца кліматычнымі анамаліямі.

Нямецкі часопіс пра кіно "*CINEMA*" адрэагаваў на фільм "*Смерч*" не толькі цікавымі развагамі пра выкшталцонасці здымак, але развагамі аб вечным процістаянні чалавека і прыроды ў жыцці й на экране адмысловым меркаваннем вядомага метэаролага. *"Неўтаймоўны ўраган,* — піша часопіс, — *здаецца, вось-вось можа вырваць глядача з яго ўтульнага фатэля. Аднак баяцца няма чаго, у Германіі такіх катастрофаў ніколі не будзе."* Прынамсі, у гэтым запэўнівае чытачоў абазнаны сіноптык Карсэн Шванке, які даў інтэрв`ю часопісу.

Зразумела, гаворка ішла пра магчымасць рэальнага тарнада (смерч над сушай) у Цэнтральнай Еўропе. Да гэтага, давёў Шванке, бракуе геаграфічных і метэаралагічных перадумоваў: выцягнутыя з захаду на ўсход Альпы замінаюць надта імкліваму змешванню халоднага палярнага й гарачага трапічнага паветра. Зрэшты, малодшыя з роду тарнада, так званыя ветравыя тромбы, могуць нараджацца і ў нас, у раўнінных мясцовасцях. Аднак яны вельмі рэдка пакідаюць за



сабой сур'ёзныя разбурэнні і чалавечыя ахвяры. Куды больш небяспечныя для нас нашы цыклонныя ўраганы, якія здараюцца пераважна зімовым часам. Ад іх нярэдка церпіць і Германія – бываюць разбурэнні, паводкі. На жаль, такія ўраганы ў Цэнтральнай Еўропе за апошнія гады прыкметна пачасціліся, а разам з імі павялічылася і колькасць чалавечых ахвяраў...

Часопіс атрымаў версію папулярнага метэаролага і адносна такой, здавалася б, вытлумачальнай з'явы як... вецер. Адкуль, напрыклад, ён бярэцца? Калі ў фільме "*Смерч*" для вытворчасці штучнага ўрагану прыдаліся турбіны авіяцыйных рэактыўных рухавікоў, дык на яве ў прыродзе, паводле Шванке, усё куды больш складана. Рэч у тым, што вецер – гэта перамяшчэнне паветра, вынік рознасці атмасфернага ціску. З нетраў, дзе высокі атмасферны ціск, паветраны токі мкнуць у раёны з нізкім ціскам. Чым большы перапад ціску – тым большы ўсходзіцца вецер. Самыя вялікія перапады ўзнікаюць часцей за ўсё пры кантрасных тэмпературных з'явах, гэта значыць падчас сутыкнення халодных і цёплых паветраных токаў, па-асветніцку зазначыў Карстэн Шванке.

Прыкладна тое ж мы назіралі 23 чэрвеня над Беларуссю. На жаль, гэта было не кіно. І калі глядзіш галівудскі "*Смерч*", зрэдзьчас "блытаюцца" кадры – тое, што бачыш на экране, міжволі чаргуецца з рэальнасцю наступстваў у беларускіх ваколіцах.І закрадваецца кволая, амаль дзіцячая думка: "Як было б добра, каб багі ніколі не гневаліся на нас..." *Уладзя Ляская*

**спадарожнікавае фотаадлюстраванне ўраганнай хвалі над Вялікабрытаніяй*

## Досвед

### Шмат адходаў. Будзем кампаставаць!

Вывучэнне меркаванага попыту на перагной (кампост) у дзвюх акругах штата Мінесота на поўначы ЗША выразна акрэсліла перспектыўнасць кампаставання гарадскіх цвёрдых адходаў (любых выкідаў,смецця, макулатуры і г.д.) Калі б усе арганічныя адходы ў ЗША ішлі на перагной, попыт быў бы задаволены прыблізна на 10 працэнтаў – пераважна ў сельскай гаспадарцы, дзе выкарыстанне кампоста значна скарачае эрозію глебы, змяншае забруджванне "хіміяй", паляпшае земляробства. Пераканальна выглядае і меркаваны эканамічны эфект: пераход ад звалак і спальвання смецця да кампаставання арганічных адходаў даў бы эканомію ад 1 да 2 мільярдаў даляраў у год.

Тая ж крыніца зазначае, што заходняя культура, якая не ведае роўных у спажыванні і якую ўсюды спяшаюцца пераймаць, спарадзіла глабальны попыт на стыль эканамічнага прагрэса з вялікай колькасцю адходаў. *Крыніца: Д.Хіршхорн, Барацьба з цвёрдымі і небяспечнымі адходамі, Экалагічны даклад.*

## Заданне майстру

### Пасля таго, як знялі цацкі...

Не пройдзе шмат часу, як мы станем сведкамі добра вядомай з'явы – святочныя ёлачкі пакінуць нашы кватэры і трапяць на брудныя задворкі, абтрасаючы апошнія іголкі ці не да самай вясны.

Лепш не дапускаць прыніжэння пачуццяў, паклапаціцца пра іншы варыянт знаёмага сюжэта. Раім наступнае.

Пасля таго, як знялі цацкі, вазьміце ў рукі нажоўку і зрабіце з дрэўца або зручны кіёк, або вешалку, як гэта паказана на малюнку. Прыдасца ў кватэры (напрыклад для дзіцячага пакоя) або на лецішчы, для паляўнічага дамка і гэтак далей. Можа атрымацца і неблагая перакладзінка ў шафцы, кладоўцы або на балконе. А галоўнае – вы захаваеце адно з правілаў экалагічнага светапогляду (чытайце на ст. 12-13). Няхай адна радасць ператворыцца ў іншую,— глядзіш, адной ёлачкай на сметніку будзе менш.



# Вазьмі як дар, вярні з паклонам!

***Чалавеку трэба няшмат,***
калі ў прыроды
не браць апошняе,
а ўсяляк старацца ахаваць
яе жыватворныя крыніцы,
асяродкі
яе міласэрнага дару.

***Чалавек не робіць памылкі,***
калі бярэ ў прыроды ашчаднай
ды ўдзячнай рукою.

***Прырода помсціць***
за памылкі тады , калі
гэтая рука чыніць гвалт і разбой.

***Мы працягваем руку на партнёрства***
з тымі, хто памятае пра
сапраўднае партнёрства з прыродай.

*Сумеснае беларуска-літоўскае прадпрыемства* "**Прагрэс**" *(Гродна)*
*Фірма* "**Terset-west**" *(Брэст-Вычулкі)*
*Акцыянернае таварыства* "**БУГ-Інвест**" *(Брэст)*
*Фірма* "**ЭГАЛ-Інвест**" *(Гомель)*

**Вы падзяляеце прынцып ашчаднасці прыродакарыстання і гатовыя падпісацца пад гэтым невялічкім "маніфестам"? Замоўце сваю пазіцыю, назваўшы сябе, -- і ў наступным нумары Ваша таемнае стане яўным. Будзьце ўдзельнікам нашае акцыі ў падтрымку сапраўднага партнёрства з прыродай!**

Зялёнае агенцтва "Неруш-прэс"

# Майстар нацыянальнага пейзажа

## На ягоныя творы, як на нешта роднае, адгукаецца душа беларусаў

Аркадзь Астаповіч

1896-1941

**Дворык**

**Першая палова 20-х гг.**

*Здасца, у гэтым дворыку я быў. Памятаю снег. Свежы, быццам вада са студні, і чысты — да колікаў у вачах. Напэўна, я быў тады зусім малы, бо гэты дворык уваскрашае ў памяці людзей, якія мрояцца з даляў дзяцінства, — іх няспітыя несучасныя твары, чыстыя беларускія словы, самабытна скроснае адзенне. Здасца, я іду па гэтай вуліцы. І не сустрэў нікога. Я быў першы, хто праклаў след.*





**Зімовы дзень**

1940

***Віталь Прошча***

Калі мы думаем пра Айчыну, мы ўспамінаем яе краявіды, малюнкі роднай прыроды, пейзажы з азёрамі і лясамі, лугамі і рэчкамі, сялібамі і шляхамі. Нам не прыходзіць у галаву штосьці іншае, апроч гэтых "мілых вобразаў". Прынамсі, думаючы пра Айчыну, мы, напрыклад, не ўяўляем парламенцкіх "арлоў" ці якіх-кольвек дзейных асоб дзяржаўнай адміністрацыі – крылы ўяўлення нясуць нас вышэй, а вытокі ўспамінаў кранаюцца адвечных і чыстых глыбіняў.



**Зіма**

**Першая палова 20-х**

***Аркадзь Астаповіч.*** *Нарадзіўся ў Мінску. Закончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію (1906-1914). Вучыўся ў Політэхнічным інстытуце ў Санкт-Пецярбургу і адначасна займаўся ў Маляўнічай школе. З 1922 стала жыве ў Беларусі. У 1941 згінуў на фронце.*



**Задворкі**

1925

Аркадзь Астаповіч быў мастаком, які нашу памяць, вытокі нашых плынна-элегічных успамінаў зафіксаваў у шматлікіх сваіх пейзажах, зрабіў іх нацыянальна вымоўнымі, вельмі беларускімі. Мы бачым у яго творах розныя матывы – дрэва, дарогу, сядзібу, перабіраем, быццам у снах, варыяцыі снегу, хат, стрэхаў, платоў, тых жа дрэваў і неба, а ў рэшце рэшт спасцігаем, пазнаём у гэтым сузор'і лірычных краявідаў адно і тое ж – нашу Радзіму, Бацькаўшчыну Беларусь, чуем скразную ноту нашай айчыннай прыроды.

Мастацтвазнаўцы ўважаюць на тое, што лепшае ў сваёй творчасці Аркадзь Астаповіч зрабіў у Навасёлках – вёсцы пад Мінскам, куды ён пераехаў пажыць у 1922 годзе. Тут пямяталі ягонага бацьку – ураджэнца вёскі, калежскага сакратара і затым тытулярнага дарадцу, а сам Аркадзь, гарадчук ад нараджэння, з асалодай і ўпершыню асвойваў новы для сябе стыль жыцця. Шмат працаваў: перапрацоўваў запасы зробленага раней, пачаў займацца гравюрай, хадзіў маляваць натуру. Большасць прац гэтага часу прысвечана беларускай вёсцы, асабліва прыродзе. Прычыну мастакоўскай самабытнасці Аркадзя сястра яго Зіна, таксама мастачка, бачыла менавіта ў зносінах з прыродай, якую брат *"пяшчотна любіў"*. Ды і ўплыву чыйго-кольвек тут не было. З Зінай разам выкладалі ў школе для сельскіх дзетак, хадзілі на эцюды ды час ад часу ладзілі спектаклі, збіраліся ў невялікім коле сяброў.

Дарэчы, сястра Зінаіда Астаповіч-Бачарова нашмат перажыве брата, які скончыў свой шлях пад Арлом у 1941 годзе ў дзень яе нараджэння, і будзе часта ўспамінаць "самага любімага чалавека". З яе успамінаў возьмем вось гэтыя: *"Брат быў надзвычай дасведчаным чалавекам і ў густах выяўленчага мастацтва, і ў густах музыкі, літаратуры, паэзіі", "чалавекам вялікай душэўнай чысціні і скромнасці...", "з мяккім, вельмі прыемным характарам".*

Першы, хто ацаніў творы А.Астаповіча, быў дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея Вацлаў Ластоўскі. У 1927 годзе падчас II Усебеларускай выставы ў Мінску ён набыў для музея творы мастака, трэба думаць, як менавіта нацыянальныя, на якія *"як на нешта роднае адгукаецца душа беларусаў"* (Н. Усава). Адгукнулася на творчасць Астаповіча і душа Якуба Коласа; ён таксама набыў з выставы колькі ўпадабаных сюжэтаў (якіх? — гэта, бадай, асобная цікавая тэма і гутарка).

Аднак адзінкавыя эпізоды прызнання таленту і самабытнасці мастака, як кажуць, не рабілі надвор'я. На двары паўставала слота і непагадзь – эстэтычная цэнзура, сістэма палітычных зняваг і абвінавачванняў. Захапленне лірычным пейзажам трактавалася як прапаганда ўпадніцкіх настрояў і ўхіл ад лініі партыі.

Не дзіва. Каб захаваць "інэрцыю нармальнага жыцця" мастак саступае кампрамісам, — і гэта адбіваецца на ўзроўні яго мастацтва...

Сапраўдная вядомасць і прызнанне "лірыка Астаповіча" прыйшлі праз 20 гадоў пасля смерці. Майстрам нацыянальнага краявіда ён вярнуўся ў свой родны Мінск, да землякоў-суайчыннікаў, якія маглі радавацца таленту шчырай душы і ў адначассі шкадаваць, што дзесяткі гадоў шэдэўры мастака былі адлучаныя ад душы народа, ад вачэй і сэрцаў, прагных да хараства і гармоніі. Гэтае шкадаванне застаецца вострым і сёння, бо творы Аркадзя Астаповіча вартыя куды большага пашырэння і ўвагі.

SUMMARY

***Arkadiy Astapovich is one of the most striking graphic painters of Byelorussian national landscape.***

Белавежская Пушча

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання трэці, 1997 №5-6 /8-9/
* пасведчанне аб рэгістрацыі №125
* наклад 2500 асобнікаў, кошт дамоўны

Пры перадруку спасылка на газету абавязковая.
Над выпускам працавалі:
Афармленне, макет: Валерый Дранчук.
Карэктура, вёрстка: Уладзя Ляская

Аўтары маюць права вольна выказваць свае меркаванні і нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.
Газета надрукавана ў друкарні "Мінсктыппраект". Падпісана ў друк 23.12.97 г. Замова № 17[illegible]
Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76

"BIELOVIEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusan Nature-Loving Newspaper. Motto: With Love To Lap. Published at the iniciative of the Information Green Agency "NERUSH-PRES"
Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16. Phone (+375 17) 236-50-76